
Памяць пра Бежанства→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Цэнтр трох культур→4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3266) Год LXIII | Беласток, 16 снежня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# — жывы час беларушчыны

❖Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



Лідзія і Барбара Пякарскія і Юрка Асеннік

**Першы БАС** пачаў узнікаць 37 гадоў таму. А сёлета найстарэйшая беларуская незалежніцкая арганізацыя ў Польшчы — Беларускае аб'яднанне студэнтаў святкуе юбілей першага з'езду — аднаўленчы заснавальніцкі сход адбыўся 17 красавіка, яго рэгістрацыя наступіла ў лістападзе 1988 года, а першы з'езд адбыўся **17 снежня 1988 года**. Але ўжо ў першай палове 1981 года група студэнтаў, этнічных беларусаў з Польшчы, вырашыла аб'яднаць намаганні для абароны сваіх правоў і захавання нацыянальнай тоеснасці. Успомніў 8 снежня 2018 года, на юбілеі пра пачаткі БАСу архівіст, гісторык, БАСяк Славамір Іванюк, які сцвердзіў на асабістым вопыце, што на аснове арганізацыі ўзніклі таксама беларускія сем'і. Актывізацыі асяроддзя беларускіх студэнтаў у Народнай Польшчы паспрыяла некалькі акалічнасцей, якія моцна звязаны былі з ажыўленнем польскага грамадства ў тэ-ласці.

Успамінае **Ян Гаворка**: — Справа пачалася яшчэ ў 1980 годзе. Пытанне заснавання студэнцкай арганізацыі нараджалася даволі доўга ў асяроддзі студэнтаў у Варшаве. Толькі імпульсам да яе паўстання, прынамсі спробы ўзнікнення, было паўстанне «Салідарнасці». На базе гэтых перамен мы пабачылі, што можна штосьці зрабіць афіцыйна. Таму прынялі ўсякія меры, каб гэта паўстала. Але тры чалавекі ці адзін самі нічога не зробяць. Пастанова, што будзем штосьці рабіць, была прынята вялікай колькасцю студэнтаў. Першы нефармальны сход згуртаваў у Варшаве каля сотні студэнтаў. Паявіліся асобы, якія былі гатовыя дзейнічаць. Сярод гэтых студэнтаў, якія актыўна дзейнічалі, быў і я, студэнт Варшаўскага політэхнічнага інстытута, на спецыяльнасці транспарт... Спачатку былі спробы ў міністэрстве (гэта не ўдалося, таму што тадышнія ўлады былі вельмі непрыхільныя). Славамір успомніў сёння, што мы спрабавалі сарганізаваць нейкую Раду культуры пры Саюзе польскіх студэнтаў. Беларуская арганізацыя ад самага пачатку называлася **БАС**. Але да ўлад мы мусілі прыняць якуюсь тактыку. Таму мы параіліся і пайшлі з зусім іншай назвай. Ішлі мы не самі, а з іншымі студэнтамі — украінскімі і літоўскімі. Шанцы былі зусім іншыя. Усё ж тады не ўдалося гэтага зрабіць афіцыйна. У той час узнікаў НЗС — польскае Незалежнае аб'яднанне студэнтаў. Мы як студэнты меншасцей падключыліся да першага з'езда НЗС, які адбываўся ў клубе варшаўскай палітэхнікі «Стадола»; нас было трох — я, прадстаўнікі ўкраінскіх і літоўскіх студэнтаў. З'езд быў вельмі бурны, але знайшлося пяць хвілін, каб выступіў наш прадстаўнік (украінец, калега Яўген Місіла). Польскія студэнты прынялі нас вельмі зычліва, гатовы пацягнуць і нашу справу. Стала інакш. Прыйшло ваеннае становішча, пачаліся рэпрэсіі — гэта датычыла і нашага асяроддзя. Між іншым і я атрымаў «запрашэнне» на Бяспеку. Націскі на наша асяроддзе былі даволі вялікія з розных бакоў. І так тады канчылася — афіцыйна нас тады не зарэгістравалі. Але гэта не значыла, што мы нічога не рабілі. Мы ўсе мелі патрэбу арганізавацца. Арганізавалі вельмі шмат розных мерапрыемстваў. У Варшаве мы сустракаліся раз у тыдзень, па 30-50 чалавек. Гэта быў цікавы час. Сустрэў я тады вельмі цікавых калег, якія мелі розныя таленты. На першым месцы я б паставіў Лёніка Тарасэвіча, які быў мастацкім духам нашага асяроддзя... І штосьці з гэта атрымалася — сустракаемся 37 год пазней, і Беларускае аб'яднанне студэнтаў ёсць, і называецца ад 1988 года, так як і ў 1981 годзе. І дзейнічае плённа дзеля нашай культуры і свядомасці.

Дарога да яднання запісана ўжо ва ўспамінах дзеячаў, сабраны вялікі архіўны матэрыял, выданы кнігі пра тое, як беларуская грамада студэнтаў сабралася ў сучасную арганізацыю і дзенічала, а паспрыялі гэтаму вонкавыя абставіны, якія проста стварылі добрую сітуацыю для выяўлення сваёй нацыянальнай тоеснасці.

Ужо ў 1981 годзе, яшчэ ў сітуацыі нявырашанай рэгістрацыі, студэнты заклалі былі асновы для дзейнасці характэрнай пазнейшаму БАС. 17-18 кастрычніка прайшоў першы ў гісторыі студэнцкі пешы паход **(рэйд) па Беласточчыне** пад назовам „Залатая восень", у лістападзе арганізаваны былі атрасіны для студэнтаў першага курса, створаны быў таксама бюлетэнь «Апошнія паведамленьні БАС». Пры Галоўнай радзе ЗПС узнікла Агульнапольская рада культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей (АРК СНМ), якой прэсавым органам стаў часопіс **„Spotkania" („Сустрэчы")**. Дзейнасць у радзе дала фінансавыя рэсурсы, пачаты былі ўжо раней прыдуманыя і ўведзеныя ў жыццё ініцыятывы, напрыклад, рэдагаванне часопіса „Сустрэчы". Развівалася турыстычная дзейнасць, мэтай якой было таксама патрыятычнае выхаванне. У заяўцы першага, найбольш маштабнага рэйду „Бацькаўшчына", яго арганізатар Лявон Тарасэвіч пісаў: *На невялікай у сусветным маштабе Беластоцкай зямлі для нас, беларусаў у Польшчы, ёсць усё, што патрабуецца дзеля зразумення свае адметнасці і свайго радаслоўя* („Ніва", 1984, № 24). Традыцыйна арганізаваліся таксама мерапрыемствы прызначаныя канкрэтна для студэнцкага асяроддзя, такія як „атрасіны" першакурснікаў, а таксама сустрэчы, даклады, запусты, вечарынкі-лекцыі, навагоднія балі, а таксама мерапрыемствы арганізаваныя з нагоды святкавання нацыянальных свят. Студэнты, згуртаваныя ў радах культуры не абмяжоўвалі свае дзейнасці выключна да свайго асяроддзя, бо супрацоўнічалі з БГКТ, рабілі спробы ўвядзення беларускай мовы ў царкоўную практыку ў акадэмічных асяродках краіны, наладзілі таксама супрацоўніцтва з „Нівай", рэдагуючы ад 19 студзеня 1986 г. штомесячную студэнцкую старонку ў тыднёвіку пад загалоўкам **„Прысутнасць"**. Праблемы тадышняй дзейнасці беларускіх студэнтаў дыскутаваныя на **І З'ездзе беларускіх студэнтаў**, арганізаваным у Бельску-Падляшскім 28-29 сакавіка 1988 г. Прысутнічала на ім каля 130 студэнтаў беларускай нацыянальнасці з розных акадэмічных асяродкаў Польшчы (Беласток, Варшава, Люблін, Ольштын, Гданьск, Лодзь, Кракаў), ліцэісты з абодвух белліцэяў (Бельск, Гайнаўка), а таксама запрошаныя госці — прадстаўнікі БГКТ, „Нівы", ЗПС, мясцовыя ўлады, а таксама прадстаўнікі царкоўных маладзёжных арганізацый. У выніку двухдзённых дыскусій было вырашана: арганізаваць новую студэнцкую арганізацыю пад назовам

**Беларускае аб'яднанне студэнтаў** (аднагалосна), пры дапамозе ЗПС арганізаваць кантакт з маладзёжнымі арганізацыямі ў БССР; стварыць турыстычную базу на Беласточчыне; накіраваць у Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства пісьмо з просьбай разметкі новых шляхоў па Беласточчыне; стварыць КР СБН ЗПС у Ольштыне; намагацца ў епіскапаце ПАПЦ увядзення беларускай мовы ў багаслужбы; арганізаваць штогадовыя агляды мастацкай творчасці студэнтаў нацыянальных меншасцей; намагацца дэпаланізацыі мясцовых назваў на Беласточчыне; стварыць Фонд развіцця і аховы беларускай спадчыны; рэактываваць маладзёжную секцыю пры БГКТ *(з архіва БАС)*.

Пасля нейкіх праблем **29 лістапада 1988 г.** дырэктар згаданага Аддзела прылічвае БАС у рээстр таварыстваў і звязаў, у выніку чаго з'яўляецца ён другой арганізацыяй беларусаў у Польшчы. У Польшчы з'яўляецца першая **зусім незалежная** афіцыйная арганізацыя нацыянальных меншасцей, паколькі ўсе меншасныя культурна-грамадскія таварыствы (у тым ліку і БГКТ) падлягалі ў ПНР строгаму нагляду Міністэрства ўнутраных спраў. Гаворачы пра перыяд **1988-1990** гадоў (ад рэгістрацыі БАС і да канца існавання Рады Культуры СБН ЗСП) усе проста стваралiся ў паразуменні. Час аказаўся вельмі плённым для дзейнасці беларускіх студэнтаў, якія працягвалі арганізаваць ранейшыя ініцыятывы, але заснавалі новыя напрамкі дзейнасці, як, напрыклад, Беларускі народны ўнівэрсітэт, паднялі намаганні па стварэнні танцавальнага калектыву (пад назовам „Лявоніха"), інтэграванні беластоцкага асяроддзя ў формуле супрацоўніцтва з Брацтвам праваслаўнай моладзі, арганізацыі турніру „Свята беларускай моладзі", супрацоўніцтва з замежнымі беларускімі арганізацыямі (з БССР ды Канады і ЗША), праводзяння конкурсу беларусаведы. Паколькі часопіс „Сустрэчы" застаўся выдавацца пад крыламі КР СБН ЗПС, у 1989 годзе БАС самастойна выпусціў у свет 3 нумары газеткі «Апошнія паведамленьні БАС». 1989 год і пачатак дзевяностых гадоў быў перыядам самага буйнага развіцця беларускага студэнцкага руху. Вельмі складана акрэсліць лік студэнтаў, якія прымалі ўдзел у працах БАС. Напачатку 1989 года існавалі ўжо гурткі БАС у Варшаве ды Беластоку, у сакавіку гэтага года заснавана было БАС у Любліне, у красавіку ў Гданьску, у снежні ў Ольштыне, а напрыканцы 1990 г. студэнты арганізавалі гурток БАС у ЗША. Яшчэ да 1989 года БАС прымае ўдзел у падпольным палітычным жыцці краіны. Яго члены былі сярод заснавальнікаў спачатку **Беларускага клуба**, а потым Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (**БДА**), прадстаўнік БАС Яўген Вапа прымаў удзел у працах камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры Грамадзянскім камітэце старшыні прафсаюза „Салідарнасць" Леха Валэнсы. У 1991 годзе ў рамках супрацоўніцтва БДА, БГКТ, БАС, Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і Грамадскага камітэта пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы ствараецца праект Рады беларускіх арганізацый, якая лягла ў аснову пазнейшага **Беларускага саюза** ў Польскай Рэчы Паспалітай.

Увесь час калегаваліся і развівалі сваю свядомасць ды прымалі ўдзел у палітычнай дзейнасці краіны. БАСаўская дзейнасць, якая пачыналася з турыстычных паходаў, вечарын, „атрасінаў" — пераходзіла паступова

працяг☞10





# Канец эпохі?

На мінулым тыдні амаль незаўважна прайшлі чарговыя ўгодкі віскулёўскіхпагадненняў. 27 гадоў таму на тэрыторыі Беларусі было падпісана пагадненне, якое ліквідавала Савецкі Саюз як геапалітычную рэальнасць. Пасля вельмі хутка прайшоў так званы „парад суверэнітэтаў" і, здавалася, старая эпоха незваротна зышла ў нябыт і наступіла новая эра. У Беларусі прыйшоў час нацыянальнага адраджэння і час не касметычнай гарбачоўскай перабудовы, а грунтоўнага пераўладкавання дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў. Так яно і было ў некаторай ступені. Аднак літаральна праз некалькі гадоў цяжкага, але пастулальнага развіцця, пасля першых (і, як выявілася пазней, рэальна апошніх) прэзідэнцкіх выбараў 1994 года наступіў рэванш камуністычна-прарасейскіх сіл. Ён пацягнуў краіну назад у балота васальнай і амаль поўнай залежнасці фармальна суверэннай Беларусі ад Масквы.

Не лепшым чынам сітуацыя развівалася і ў бальшыні іншых савецкіх сацыялістычных рэспублік. З іх, бадай, адна маленькая Эстонія можа служыць выразным пазітыўным прыкладам. Гэтая краіна здолела правесці структурныя маштабныя рэформы і пабудаваць дзяржаву, якой можна калі не ганарыцца, то быць задаволенай. У гэтай дзяржаве пільнуюцца і нацыянальныя інтарэсы і не забыты маленькі чалавек працы. Той, хто хоча там працаваць, мае ўсе шанцы на годнае жыццё. У Латвіі і Літве куды больш складаней, але жыццё грамадзян у цэлым досыць годнае, там таксама функцыянуюць асноўныя механізмы дэмакратыі і рынкавыя законы. Украіна, Грузія, Арменія, Кыргызстан, перажыўшы за гэты час па некалькі рэвалюцый, часам аксамітных, часам з ахвярамі, ніяк не могуць выбрацца з гаспадарчага крызісу, адолець карупцыю і іншыя ключавыя заганы сучасных дзяржаў, некаторыя выйсці з-пад расейскага ўплыву. Малдова таксама працягвае перажываць вострыя палітычны крызіс, праблемы самавызначэння і заставацца ледзь не самай беднай краінай Еўропы, а можа і самай беднай.

У астатніх сямі былых савецкіх рэспубліках, сярод якіх Беларусь, Расея і яшчэ пяць мусульманскіх краін (Туркменістан, Узбекістан, Таджыкістан, Казахстан, Азербайджан) пануюць альбо безнадзейныя таталітарызм альбо аўтарытарныя рэжымы з тэндэнцыяй таксама да поўнай дыктатуры. У Казахстане, прыкладам, яшчэ з часу СССР амаль ужо 30 гадоў нязменна кіруе ўладар Нурсултан Назарбаеў. Ён там сапраўдны Елбасы (галава дзяржавы — рэд.) і султан, толькі спярша пад тытулам першага сакратара ЦК Камуністычнай партыі Казахстана, а потым пад шыльдай прэзідэнта гэтай краіны. А вось у Азербайджане вярхоўная ўлада плаўна перайшла па спадчыне ад бацькі Гейдара Аліева да сына Ільхана Аліева — іх агульны стаж кіравання складае фактычна 50 гадоў — паўстагоддзя! Але пакінем убаку азіяцкія мусульманскія краіны, дзе такі султанацкі менталітэт фармаваўся тысячагоддзямі. Не трэба лезці ў Азію са сваім еўрапейскім статутам.

Як казаў літаратурны класічны герой — прадаставім неба птушкам, а самі звернемся да крэслаў. Ці, па-іншаму — вернемся да нашых бараноў. У Беларусі чарговыя ўгодкі канання Савецкага Саюза прайшлі амаль непрыкметна: пару публікацый у нешматлікіх незалежных медыях, ды віншавальнае абмеркаванне фейсбукавай супольнасцю. У сапраўды незалежнай Беларусі гэты дзень — 8 снежня павінен стаць святочным і, магчыма, нават выходным. А зараз радавацца няма чаму — з усіх бакоў татальная залежнасць ад крамлёўскай палітыкі і эканомікі, ад маскоўскай ідэалогіі і прапаганды. У гэтай дзяржаве няма месца пра памяць Слуцкіх паўстанцаў ці герояў вызвольнага чыну 1863 года, няма месца памяці ахвяр ленінскага камуністычнага рэжыму. Тут месца настальгіі па расейскіх царах-імперцах і іх катах суворавых, пачэснае месца помніку расейскаму гарадавому і шыльдзе Сталыпіну, а таксама лініі Сталіна і помнікам Дзяржынскаму.

Дзяржаўныя ж ідэолагі, якія скрозь маюць прарасейскую арыентацыю, пра бясслаўны распад СССР згадваць не хочуць. Многім старэйшым людзям з ранейшай камуністычнай наменклатуры, якія і зараз альбо пры пасадах, альбо ў пашане, уvогуле з настальгіяй успамінаюць тыя часы з іхнімі кармушкамі, спецпаліклінікамі, пасадамі па спадчыне і таму падобным.

Савецкі Саюз сканаў, але эпоха расейска-савецкай імперыі яшчэ не скончылася...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Як?

Чалавечы свет псуецца з самага пачатку, і хто ведае, ці ўжо не пачаў пагаршацца з моманту яго стварэння. Пастаянна псуюцца часы, людзі, ідэі. Горшае замяняе лепшае. Гэтаму працэсу, здаецца, няма канца. Неяк пачалося і ідзе далей. Горш таго, гэта закранае ўсе аспекты чалавечай дзейнасці. Ад палітыкі па норавы. Ад гутарковай мовы да культуры. Ад практычнага жыцця да духоўнага вымярэння. Магчыма, гэта таксама непасрэдна ўплывае на натуру чалавека. Таму што мы, як супольнасць, становімся ўсё больш магутнай цывілізацыяй, не значыць, што на індывідуальным узроўні не апускаемся ніжэй і ніжэй на эвалюцыйнай лесвіцы. Адным словам: дурнеем.

Ужо старажытныя грэкі выявілі, з некаторым здзіўленнем, што іх моцныя металічныя грошы бітыя ў срэбры і золаце таямнічым чынам знікаюць з абарачэння, і замяняе яго медная ліхая манета. Мы ведаем, як вельмі наракаў на гэта ў камедыі «Жабы» Арыстафан. Старажытным, аднак, не ўдалося абагульніць гэтага назірання, ані сфармуляваць правіла, якое ішло б за ім. Толькі пасля непазбежных працэс выпіхвання лепшых грошай горшымі абагульніў Капернік. Той жа Мікалай, які «спыніў Сонца і рушыў Зямлю». Сёння тую тэорыю, сфармуляваную ў працы «Rozprawa o urządzeniu monety» называецца правілам Каперніка-Грэшэма. Тамаш Грэшэм, англійскі купец і аматар-эканаміст, быў амаль аднагодкам Каперніка і паралельна, але незалежна ад яго, дайшоў да такога ж правіла, як больш вядомы калега. Вельмі спрошчана яно гучыць так: «Калі ў той жа час існуе два віды грошай, роўных па каштоўнасці, але адны з іх разглядаюцца як лепшыя, напрыклад, з падвышаным утрыманнем руды, той лепшы будзе збірацца, а ў абароце застаецца ў асноўным той з горшага металу». Непазбежнасць гэтага прынцыпу пацвярджаецца нават у наш час. Залатыя манеты лічацца сёння калекцыйнымі манетамі. Золата акумулюе ўрад. Папяровыя грошы застаюцца людзям. А неўзабаве і яны будуць цалкам выцеснены віртуальнымі грашыма. Ужо большасць буйных пакупак афармляем праз інтэрнэт або праз банкаматную карту. Страшна падумаць, што будзе, калі катаклізм знішчыць сетку інтэрнэту, перастануць дзейнічаць серверы, уся тая «віртуальная» моц сучаснай цывілізацыі...

Можна было б спытаць разумна, што злучае правіла Каперніка-Грэшэма, напрыклад, з палітыкай? Ці, можа быць, нават з усёй нашай цывілізацыяй? Іншым словам, прычым тут Кузька? Але досыць паўзірацца ў яго асноўны прынцып, каб шчаціннe на нашых няшчасных галовах дало дыба. Горшае выцясняе лепшае. І яшчэ горшае выцясняе горшае. Якасны рэгрэс адбываецца літаральна на нашых вачах. Моцныя веды замяняе хуткі доступ да інтэрнэту. Такім чынам, веды не здабываюцца, толькі капіруюцца. Сёння можна купіць амаль кожную магістарскую працу, як гарачую бульбяную кішку ў прадуктовай краме.

У свеце палітыкі яшчэ горш. У грамадскім абыходзе горшы, чытай: усё больш хамскі, цынічны, бессаромны палітык заваёўвае ўсё большую папулярнасць, гэта значыць палітычную падтрымку, чым палітык дасведчаны, добры, прыстойны, культурны. Прыклад панны Паўловіч не адзіны. Зварварызавала палітыку. Тое ж самае адбываецца ў СМІ і на праславутай вуліцы. Культура стадыённых фанатаў уварвалася ў салоны. Салоны ўсё часцей нагадваць стадыёны. Не інакш у рэлігійнай сферы. Мы ўжо прывыклі да капліц у супермаркетах. Хтосьці нядаўна прыйшоў з ідэяй усталяваць у цягніках канфесіяналы. Наўрад ці кагосьці гэта кранула. Гэтак жа, як тое, што, нягледзячы на афіцыйную дэкларацыю па барацьбе з педафіліяй некаторых (што зусім не азначае, што іх мала) святароў, касцёл усё яшчэ недаацэньвае праблему, або крывадушна замятае яе пад дыван. Замест таго ўсё больш і больш умешваецца ў справы дзяржавы, зніжаючы яе суверэнітэт, або, што яшчэ горш, умешваецца ў працэс навучання ў адукацыйных установах. Рэформы, да якіх заклікаў у адукацыі і жвава прынятыя цяперашняй уладай, рэзка зніжаюць узровень навучання. Павінна было быць лепш, ёсць горш. Мела быць прыгажэй, стала брыдчэй. Калі камусьці гэтых прыкладаў замала, хай паглядзіць вакол, хай адкрые свае вочы. У кожнай сферы жыцця горшае выцясняе яшчэ горшае, у хуткім часе горшае будзе заменена яшчэ больш паганым... Дык дзе той лепшы грош? Дзе назапашваецца лепшае? У чалавеку. Але як з яго гэтае дастаць?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# БАС – Беларускі астравок свабоды

Ёсць моманты нашага жыцця, якія са сваімі вобразамі, словамі, колерамі застаюцца з намі назаўсёды. Дарослым час былой маладосці, час студэнцтва, гэта тая беззваротна аджытая Ітака, да якой ніколі ўжо не патрапім. Бо час, як рака, нясе нас усіх на сутык краін жыцця і забыцця. Але заўсёды, пакуль мы зараз і цяпер, кожны з нас у сваім сэрцы і душы захоўвае тыя здарэнні і падзеі, якія з'яўляюцца нашай адзінай і непаўторнай зямной вечнасцю.

Фарміраванне і ўзнікненне беларускага студэнцкага руху на Беласточчыне ў пачатку і цягам васьмідзясятых гадоў гэта не толькі наша індывідуальная памяць, але як аказваецца, гэта ўжо неад'емная частка ўсёй агульнабеларускай, гістарычнай часапрасторы. Ствараючы і абараняючы тады сваё, роднае і дарагое, беларускімі студэнтамі ў Польшчы адбудоўвалася адначасна перарваная, нябачная намі нітка са сваімі папярэднікамі з Беласточчыны, якія на зломе XIX і XX стагоддзяў будучы студэнтамі Варшаўскага, Пецярбургскага, Маскоўскага ці потым Віленскага ці Пражскага ўніверсітэтаў, нягледзячы таксама на неспрыяльныя сацыяльна-палітычныя перашкоды, сваё жыццё і мары прысвячалі беларускай справе ў самых розных самаарганізацыйных формах. З усіх тых мараў і дзеянняў выспявала паступова ідэя незалежнасці і самастойнасці беларускага народа як роўнага паміж іншымі суседскімі нацыямі.

У выпадку нашага падляшскага, беларускага студэнцкага лёсу і выбару, генетычная і сямейная гістарычная памяць адыграла, здаецца, вырашальную ролю пры выбары той самаарганізацыйнай адметнасці. Жывыя, сямейныя сведкі гісторыі са сваімі расказамі пра бежанства, міжваенную Польшчу, ваенныя і пасляваенныя жахі ўратавалі нашу адметнасць і не далі расплысціся ў прываблівым моры сацыялістычнай, адзінанацыянальнай Польшчы. Нашы старажылы ці непасрэдна родныя бабулі і дзядулі аказаліся быццам тыя ананімныя, гамерычныя носьбіты, але... беларускай неспісанай памяці. Яны аказаліся гістарычнымі кнігаэношамі, хаця без кніжак, але ў сваіх расказах засейвалі ў нас зерне для пошукаў нашай праўды. Праўды, якая раптоўна выспела разбуджанай прагай свабоды і годнасці. Прыпомню толькі, што нам, дзецям і падлеткам, у тадышняй асветнай сістэме вызначалася веданне ўсіх князёў і каралёў Польшчы, але адкуль мы і якога роду і гісторыі не гаварылася. Менавіта гэтыя запыты не далі сотням маладых людзей ад Буга па Бобру, ад Драгіцкай зямлі па Сакольшчыну спакойна змірыцца з духоўна-нацыянальным адмiраннем. На фоне бурлівых польскіх перамен васьмідзясятых гадоў з'явіўся і малады беларускі голас, што заявіў пра сваю адметнасць ужо сваёй адукаванасцю і патрэбай новых ідэй перад выклікамі рэчаіснасці.

З перспектывы часу гэтыя 30 гадоў праляцелі маланкава. Падзеі, якія фармавалі мяне як асобу, ці нашае пакаленне, застаюцца з намі. Выбар на карысць беларускасці і Беларускага аб'яднання студэнтаў быў здаецца самым важным у маім жыцці. Калі гляджу на ўсё робленае БАСам цягам усяго часу, то з грамадскага, але і асабістага пункту гледжання не будзе перабольшаннем расшыфраваць абрэвіятуру назвы арганізацыі таксама як — Беларускі астравок свабоды. Гляньма на гэта таксама як на беларускі феномен, які быў запачаткаваны ў 80-х гадах мінулага стагоддзя па-за межамі сваёй духоўнай Бацькаўшчыны. Пакаленне беларускамоўнай, вясковай, студэнцкай моладзі сустрэлася з гарадскім у большасці польскамоўным пакаленнем і знайшло супольную дарогу і апірышча. Менавіта і з-за гэтага, між іншым, была таксама такая разнастайнасць дзейнасці. Калі студэнцкая арганізацыя нацыянальнай меншасці перастрывала ўсе закалоты, то гэта значыць, што маладым людзям беларускасць яшчэ не зацюканая і не апошняя справа. Не буду пералічваць тут грамадска-палітычных, бізнесовых, культурных ініцыятыў і падзей, якія інспіраваліся, ці рэалізуюцца па сёння людзьмі чарговых басаўскіх пакаленняў. Самым галоўным і яднальным для ўсіх нас ёсць фактар, што быццё беларусам гэта нармальная справа штодзённасці цяпер і дай Божа ў будучыні.

**Яўген ВАПА**

# Бежанства паказана вучнямі

Жыхары Гайнаўшчыны летам 1915 года пазней адпраўляліся ў бежанства, чым жыхары суседніх раёнаў і многія з іх вымушаны былі на Піншчыне сысці з дарог, каб прапускаць адступаючыя атрады расійскага войска. Пасля частка з іх не паспела пераправіцца праз рэкі, на якіх зрывалі масты, каб прытармазіць наступ атрадаў нямецкага войска. Хутка аказалася, што нямецкія вайсковыя не такія страшныя, як пра іх раней распавядалі. Дагнаўшы бежанцаў, вярталі іх дамоў разам з дабыткам і нават дапамагалі ў патрэбах. Як гэта адбывалася, расказвалі нашчадкі бежанцаў вернутых дамоў на Пінскіх балотах у фільмавым рэпартажы «Бежанцы. Не бежанцы», які быў запрэзентаваны 29 лістапада ў Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы. Загаловак рэпартажу «Бежанцы. Не бежанцы» дае магчымасць задумацца, ці выезд на Піншчыну быў бежанствам, паколькі нашы жыхары, вернутыя дамоў на Пінскіх балотах, хутка прыязджалі ў родныя хаты, калі тыя не былі спалены. Сабраныя ўбачылі таксама тэатр ценяў «Бежанства. Цені мінуўшчыны» і мультымедыйную прэзентацыю «Дзеці — бежанцы». Усе гэтыя працы выканалі вучні Комплексу прафесійных школ імя Тадэвуша Касцюшкі ў Гайнаўцы пад апекай сваіх настаўнікаў у рамках рэалізавання Гайнаўскім старастам праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей».

Сустрэчу адкрыла дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі Ала Грыц, якая прывітала сабраных і паінфармавала пра вялікую ангажаванасць каля сарака вучняў і іх настаўнікаў з Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы ў падрыхтоўку прац пра бежанства на конкурс у рамках рэалізавання праекта «Бежанства — гісторыя звычайных людзей», якія ацаніла вельмі высока. Настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ Іаанна Сапяжынская, якая вяла спатканне, коратка распавядала пра паасобныя прэзентаваныя работы пра бежанства і паінфармавала пра іх аўтараў і апекуноўнастаўнікаў, якія прыбылі на спатканне. Першым быў запрэзентаваны фільмавы рэпартаж «Бежанцы. Не бежанцы», якога аўтарам з'яўляецца Матэвуш Шварц і выканаў яго з дапамогай сваіх апекуноў, настаўніц Іаанны Сапяжынскай і Анны Аксэнтовіч-Мартынюк.

— Месцы, куды мы ездзілі, каб паразмаўляць з бежанцамі, якія хутка вярнуліся дамоў, падбірала мая настаўніца гісторыі Іаанна Сапяжынская, якая спадарожнічала мне на спатканнях. Я праводзіў размовы з героямі майго фільма, запісваў іх і мантаваў рэпартаж. Матэрыялаў запісаў я больш, але мусіў скарацiць іх, каб фільмавы рэпартаж быў згодны з рэгламентам конкурсу. Мой бацька родам з Навасадаў, а маці з Чаромхі-Вёскі, але не змог я даведацца ад бабуль і дзядуляў, ці мае продкі ездзілі ў бежанства, бо пра гэта раней мала ў маёй сям'і гаварылася. Рэалізуючы фільм зацікавіўся я тэмай бежанства, якое мела вельмі вялікае ўздзеянне на жыццё нашых продкаў, — скажа ўжо пасля завяршэння сустрэчы сёлетні выпускнік Будаўнічага тэхнікума ў Гайнаўцы Матэвуш Шварц, які падрыхтаваў фільмавы рэпартаж і заняў другое месца ў конкурсе «Бежанства — гісторыя звычайных людзей», якога вынікі нядаўна падвяло Гайнаўскае стараства.

— Я запрапанавала Матэвушу суразмоўцаў, якіх ведала, а ён зняў цікавы фільм пра людзей, якія хутка вярнуліся дамоў з бежанства. У даступных публікацыях вельмі мала ёсць інфармацыі якраз пра тых бежанцаў, якія даехалі толькі на Пінскія балоты і там дагналі іх немцы і завярнулі дамоў. Такіх бежанцаў многа вярнулася ў Грабавец, Стары Корнін іІсток, а ў нашым фільме выказваецца таксама жыхар Карыціскаў, які ўспамінае сваіх продкаў, якія даехалі толькі на Піншчыну і вярнуліся адтуль дамоў. Жылі яны падобна, як раней, але на нашых тэрыторыях акупаваных немцамі не было ўжо праваслаўных



Сустрэчу адкрыла дырэктар публічнай бібліятэкі Ала Грыц і прывітала настаўніцу гісторыі Іаанну Сапяжынскую, якая пасля вяла спатканне

свяшчэннікаў, якія з вернікамі выехалі ў бежанства і нашы людзі маліліся тады па хатах, — распавядала настаўніца Іаанна Сапяжынская.

Іншая гайнаўская настаўніца гісторыі гаварыла мне, што частка жыхароў Дубін таксама была вернута на Піншчыне дамоў і жылі тут падчас нямецкай акупацыі. У выдадзенай Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва» кнізе «Бежанства 1915 года» можна таксама прачытаць успаміны бежанцаў, якія даехалі толькі на Піншчыну і адтуль вярнуліся дамоў. Змешчаны там успаміны маёй бабулі Аляксандры з Арэшкава, якая ў шасцігадовым узросце паехала з сям'ёй у бежанства і на Пінскіх балотах былі яны вернуты дамоў. Мая бабуля ўспаміналa, як пры нямецкай акупацыі была адноўлена дзейнасць школы ў Арэшкаве, якая запоўнілася дзеткамі з Арэшкава і наваколля. З Пінскіх балот былі вернуты таксама сем'і майго дзядулі Юліяна з Арэшкава і дзядулі Мікіты з Новаберазова. Пашпарт маёй прабабулі Варвары з Новаберазова быў выдадзены пры нямецкай акупацыі на нямецкай і беларускай мовах. Здымак для пашпарта быў зроблены зімой і мая прабабуля была апранутая ў кажух. Падобныя фатаграфіі на пашпартах асоб апранутых у цёплую вопратку, якія жылі пад нямецкай акупацыяй, былі запрэзентаваны ў фільмавым рэпартажы «Бежанцы. Не бежанцы». Аляксандар Кот з Істока, Андрэй Завадзкі з Карыціскаў і Ніна Аксэнцюк са Старога Корніна распавядалі ў фільмавым рэпартажы, як іх продкаў завярнулі дамоў нямецкія вайскоўцы на Піншчыне і як яны прадаўжалі жыццё дома. Спадарыня Ніна Аксэнцюк са Старога Корніна пераказала аповеды сваіх продкаў, якія вярнуўшыся хутка дамоў, убачылі неспаленымі хаты і гаспадарчыя будынкі ў Старым Корніне. Суразмоўцы Матэвуша Шварца расказвалі, што пасля вяртання з Пінскіх балот наогул вёскі не былі спаленымі, але дамы і гаспадарчыя будынкі былі абшабраванымі. Аднак продкі знаходзілі дома харчаванне, вопратку і іншае дабро, закапанае перад выездам і з гэтага распачыналі сваё жыццё дома. Тыя вяскоўцы, якія вярталіся з бежанства пасля шасці або сямі гадоў, часта знаходзілі закапанае гнілое і збуцвелае дабро. Суразмоўцы вучня ў фільме распавядалі, што вяртаючыся з бежанства людзі стараліся жыць дружна і памагалі адзін аднаму.

Цікавай была мультымедыйная прэзентацыя «Дзеці — бежанцы», якую падрыхтавалі вучаніцы Комплексу прафесійных школ Мартына Шпаковіч, Агата Ажолак і Габрыеля Антонюк. Здымкі дзяцей-бежанцаў, якія не па сваёй волі апынуліся далёка ад сваіх дамоў, рабілі вялікае ўражанне на сабраных у гарадской бібліятэцы. На адных фатаграфіях можна было ўбачыць стомленыя твары, зношаную вопратку дзетак і знішчэнні вакол падарожнікаў, а на іншых здымках дзеці знаходзіліся ў дзіцячых прытулках, калі загінулі іх бацькі або дзеткі самі адлучыліся ад родзічаў і не маглі іх знайсці. Падчас бежанства дзеці памiралі ад розных хвароб і іх пахавіны адбываліся таксама непасрэдна каля дарог, а нават здаралася, што пакідаліся памерлыя дзеткі каля чыгуначных пуцей, аб чым можна было даведацца з працы вучняў. Прэзентацыя фатаграфій з дзеткамі-бежанцамі суправаджалася вопісамі складаных умоў, у якіх апынуліся дзеці, а таксама адпаведна падабранай музыкай. Леакадзія Саевіч з Вітава і Анна Цырук з Гайнаўкі пераказвалі на кароткіх фільмах у прэзентацыі аповеды пра бежанства ў іх сем'ях і ўдзел дзетак у ім. Сабраныя ў бібліятэцы пахвалілі ідэю параўнання ў прэзентацыі дзетак-бежанцаў з пачатку XX стагоддзя, з дзеткамі-бежанцамі з пачатку XXI стагоддзя, якіх было відаць на здымках, як з-за войнаў уцякаюць са сваіх родных месцаў. Вучаніцы, якія выканалі прэзентацыю аб дзетках у бежанстве, сказалі, што рэалізуючы яе многа даведаліся пра бежанства, якое тычылася таксама іх продкаў.

— Мая дачка Мартына Шпаковіч вельмі моцна заангажавалася эмацыйна, калі з сяброўкамі рыхтавала прэзентацыю пра дзяцей у бежанстве. Разам з сяброўкамі хацелі яны як мага найлепш падрыхтаваць прэзентацыю, якая цяпер выклікае вялікую зацікаўленасць гледачоў, — заявіла мама Мартыны Шпаковіч.

Цікава быў зрэалізаваны і моцна спадабаўся публіцы тэатр ценяў «Бежанства. Цені мінуўшчыны», за які Гайнаўскае старасты прызначыла вучням спецыяльную ўзнагароду. Вучні Комплексу прафесійных школ пад апекай настаўніц Анны Лясоты і Анны Цырук супольна рыхтаваліся да выступу з тэатрам ценяў пра бежанства. Матэвуш Шварц запісваў паасобныя сцэны тэатра ценяў на камеру і пасля змантаваў з іх у фільмавым варыянце тэатр ценяў «Бежанства. Цені мінуўшчыны». Быў ён запрэзентаваны ў бібліятэцы і публіка ўбачыла як вучні, як акцёры тэатра ценяў, цікава запрэзентавалі жыццё перад бежанствам, дарогу ў далёкія краіны, куды дабіраліся бежанцы, іх жыццё далёка ад дому і вяртанне на радзіму. На вялікую пахвалу заслугоўвала ўмелая ігра акцёраў, але вельмі важнымі былі песні, якія суправаджалі ігру на сцэне.

— Праз песні мы хацелі выклікаць большыя эмоцыі і думаем, што гэта нам удалося. Перад бежанствам і падчас яго было таксама звычайнае жыццё людзей і мы рашыліся гэта таксама паказаць у тэатры ценяў. Ад самага пачатку ведалі, што падбярэм песні "Слава Богу за ўсё», «Радзіма мая Беларусь», «Мой родны кут» і іншыя творы. Разлічвалі, што калі ў ходзе спектакля хаця адной асобе пацячэ слязінка, будзем рады. Пахвальныя і эмацыйныя водгукі публікі, якая глядзела пастаноўку ў нашай школе, і тут, падчас спаткання ў бібліятэцы, нас вельмі абрадавалі. Цяпер ведаем, што варта было зносіць многія рэквізіты, рабіць рэпетыцыі і многа папрацаваць з моладдзю. Доказам гэтаму з'яўляецца эмацыйнае ўспрыняцце выступу нашай моладзі публікай, — сказалі аўтаркі сцэнарыя, сцэнаграфіі і рэжысёры тэатра ценяў настаўніцы Анна Лясота і Анна Цырук.

Дырэктар публічнай бібліятэкі Ала Грыц выявіла сваё захапленне фільмавым рэпартажам, прэзентацыяй і тэатрам ценяў. Пахваліла вучняў і іх настаўнікаў за цікавыя і ўмела выкананыя працы наконт бежанства і ўручыла ліст з падзякай прысутнаму на спатканні віцэ-дырэктару Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы Юрыю Харытанюку і падарунак — вядучай спатканне Іаанне Сапяжынскай. Вельмі высокую ацэнку далі работам вучняў таксама асобы з публікі, звяртаючы ўвагу, што моладзь выканала сваю работу ўмела. Падчас сустрэчы была названа таксама літаратура на тэму бежанства, якая знаходзіцца ў гайнаўскай бібліятэцы, а сярод яе кніга «Бежанства 1915 года», выдадзеная тыднёвікам «Ніва».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Засталіся адно ўспаміны (48)

Пасля шлюбу я пачаў задумвацца над заменай працы. Качэўніцкі лад жыцця добры быў у кавалерскім стане. Я ўжо лічыўся чалавекам сямейным. Замышляў чым хутчэй вярнуцца дамоў і прытуліцца да сваёй шлюбнай. Бо, праўду сказаўшы, дык у нас не было «мядовага месяца», апрача двух дабавачных дзён законна прызначаных з нагоды заключэння сужонства. Іншай, не менш важнай справай была кватэра. Пакуль што заставаўся кватарантам у цясцёў у Дубяжыне. Нядрэнна жылося. Гаспадарка задбаная ды зямля ўраджайнай была. Усяго ўдосталь хапала. Ды сямейнікі з павагай ставіліся да мяне. Я пакрысе пачаў адчуваць сябе паўнапраўным жыхарам Дубяжына. Час ад часу заглядаў у Кузаву. Канчаўся школьны 1967/1968 навучальны год. Пачаліся канікулы. Спынілася арганізаванне ранішнікаў для школьнікаў. Чым было заняцца кіношніку ў доўгія летнія дні? Мае кампаньёны шафёр Скепка з кінамеханікам Чарняніным пасля вячэрніх сеансаў падаваліся дамоў на матацыклах. Алік, калі знаходзіліся на Гайнаўшчыне ў наваколлі Гайнаўкі, а Уладэк, калі знаходзіліся ў наваколлі Кляшчэляў. Скепка матацыкл грузіў па адмыслова прыстасобленую дошку ў машыну, затым пераязджалі ў наступную вёску, дзе мелі арганізаваць вечаровыя сеансы. Я сам заставаўся ў машыне. Аднойчы, калі закончылі сеансы ў Пашкоўшчыне, я папрасіў шафёра, каб падвёз мне ў Дубяжын. Усяго не больш чым тры кіламетры дарогі. У адказ пачуў такія словы: «Можаш пехатою прайсціся». І ўчыніўся ў нас скандал. «Калі так, дык матацыкл не будзеш вазіць у машыне. Не станеш забяспечваца службовым палівам», — заявіў я рашучым тонам.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Мае польска-беларускае сяброўства

Што такое дружба, адкуль яна бярэцца? Я думаю, што пра сяброўства можна гаварыць вельмі многа, але я тое сяброўства бачу ў розных аспектах. Бо ж як можна назваць нашы «Васільковыя сустрэчы» з парай беларусаў? Яны падарожнічаюць сотні кіламетраў кожны тыдзень, каб сустрэцца з намі і навучыць нас чагосьці. У рэшце рэшт, гэта ўжо немаладыя людзі, а, вядома, нялёгка і не надта прыемна стаяць на мяжы і чакаць пагранічны кантроль. Шэры, не самы новы «опель» выходзіць з-за павароту. Як кожны тыдзень Люда і Мікалай едуць на рэпетыцыю ці то да «Васілёчкаў», ці «Арлян» — калектываў з вялікімі традыцыямі. Яны працуюць з намі, і гэта не так проста. Спачатку Мікалай апрацоўвае песні на пяць галасоў. Цярпліва ўводзіць фразы паасобных галасоў у нашы галовы, а затым аб'ядноўвае іх разам. Калі песня ўжо апрацавана, мы ўжо яе ўмеем, далучаецца Люда — харэограф. Вучыць нас танцам, што таксама не такое лёгкае і простае. Паўтараем шмат разоў, часам малыя фрагменты, часам злучаныя ў цэласць. Іх карпатлівая праца бачная толькі на канцэртах, тады, калі калектыў мае паказацца перад публікай. Бываем на канцэртах у Польшчы і за мяжой, і толькі тады бачны вынікі іх цяжкай, напружанай працы.

Дык як назваць гэтую іх працу?

Яны сапраўды яе любяць, і вельмі моцна залежыць ім на тым, каб як найлепш падрыхтаваць нас. Я схіляю чало з вялікай павагай перад імі і з усяго сэрца жадаю ім здароўя і сілы. Я рада, што і я апынулася ў крузе, у якім мела магчымасць сустрэцца з гэтымі людзьмі.

Я называю гэта сяброўствам, таму што ведаю: музыка лагодзіць норавы і паводзіны, і межы для яе непатрэбны. Мае дарагія, жадаю вам шчасця і ўдачы ды доўгіх гадоў жыцця. Я называю гэта сяброўскай сувяззю паміж двума народамі Беларусі і Польшчы. Гэта вялікі гонар для мяне — спазнаваць культуру іншых народаў, тым больш, што Беларусь з'яўляецца суседкай Польшчы.

**Арынка ПІВОВАР**

# Тры культуры — адзін горад

**Цэнтр трох культур у Сухаволі працуе толькі два месяцы, але ўжо прайшлі тут сустрэчы і выставы, прысвечаныя гісторыі яе жыхароў. Цэнтр створаны, каб захаваць гісторыю католікаў, габрэяў і татар, якія былі гаспадарамі гэтай мясцовасці. Будынак новай культурнай установы ўзнік на месцы старога аўтобуснага вакзала, які палохаў сваім выглядам прыезджых. Зараз на гэтым месцы знаходзіцца важны пункт на культурнай карце Сакольскага павета і Падляшскага ваяводства. «Ніва» размаўляе з працаўніком ЦТК у Сухаволі Давідам Гудэлем.**





**— Апрача мерапрыемстваў, якія прайшлі ў ЦТК, таксама вы правялі акцыю «Дар для музея». З якім вынікам?**

— Дзякуючы гэтай акцыі ўдалося сабраць многа вартасных прадметаў. Сапраўды, мы самі не чакалі такога водгуку жыхароў гміны. Але ў акцыю ўключаліся таксама і асобы з іншых рэгіёнаў Падляшша. Дзякуючы таму ўзніклі тры экспазіцыі, якія прыпамінаюць аб шматкультурнасці гміны. Зараз можам агледаць і старыя каталіцкія спеўнікі і татарскія малітоўнікі ці яўрэйскія святыя кнігі.

**— Менавіта з гэтых спеўнікаў карыстае моладзь, якая прыходзіць у Цэнтр на майстар-класы?**

— Так. У гэтых малітоўніках можна знайсці калядныя песні, так званыя «кантычкі» стагадовай даўніны. Нашы каляднікі прыходзяць і вывучаюць гэтыя песні, каб пазней у час святочнага калядавання з гэтымі песнямі наведваць жыхароў гміны.

**— А што з мелодыяй?**

— Вось менавіта, моладзь вучыцца гэтых песень не толькі з кніжкі, але таксама ўжывую, таму што прыязджаюць да нас спевакі з суседніх вёсак, напрыклад спадар Антоні Вайтулевіч з Вялікай Яцвезі, які сам некалькі дзясяткаў гадоў таму калядаваў і ўсе песні вельмі добра памятае. Гэтыя песні былі амаль аднолькавымі ва ўсіх вёсках нашай гміны, але часта мелі розныя мелодыі. Зараз мы спяваем некалькі кантычак паводле яцвезскага варыянту.

**— Апрача выставак прысвечанай найбольшай рэлігійнай групе нашай гміны — католікам, удалося вам знайсці татарскія і яўрэйскія памяткі. Якія?**

— Татарскія малітоўнікі, пісаныя па-арабску, прыехалі да нас з Беларусі. Маем таксама каран і тасбіх — мусульманскі ружанец.

**— Якім чынам малітоўнікі з Беларусі апынуліся ў вас?**

— Яны былі спісаны праз продка сям'і Мухля. Гэта мусульманская сям'я, якая ў Сухаволі жыве ад стагоддзяў. Іх продак быў імамам. Па ім нам засталіся тры прыгожыя малітоўнікі. Калісьці нашы татары ўтрымлівалі кантакты з гродзенскімі. Частка сям'і Мухляў засталася па другім баку сённяшняй мяжы з Беларуссю. Тыя малітоўнікі засталіся па нашым баку мяжы.

**— Бачу, што дасюль найменш удалося знайсці слядоў існавання ў Сухаволі даволі вялікай перад вайною групы — яўрэяў?**

— Малітоўнік, напісаны па-габрэйску і на ідыш, прыбыў да нас з Гарадка. Менора з навейшага перыяду, таксама як і актуальныя манеты з Ізраіля.

**— Нічога не засталося ад сухавольскіх габрэяў?**

— Маем часткі мацэваў. Адну знайшлі ў час рамонту. Яна была ўмураваная ў нейкі фундамент. Другую знайшлі на старым сухавольскім кіркуце, а трэцяя прыехала да нас з Ляўданшчыны. Апошняя мае пасярэдзіне дзірку, напэўна мела быць выкарыстоўваная як тачыла. Цешымся, што ўдалося знайсці прынамсі тры мацэвы. Таксама стараемся не пытацца пра гэта, якім чынам мацэва трапіла да канкрэтнай асобы, якая была яе дарога ў наш Цэнтр. Напэўна ў большасці гэта даволі ганебныя гісторыі. Затое ўдалося нам пры дапамозе спецыялістаў высветліць, што на іх напісана і што сімвалізуюць малюнкі. На адной маем Льва, як аказваецца, гэта сведчыць, што пад ёй быў пахаваны мужчына, а выява сімвалізуе вучоную асобу. Магчыма, што быў пахаваны рабін. Мы мелі сумненні ці мацэвы трымаць тут, ці надмагіллі павінны пакінуць на святой зямлі — на кіркуце. Аднак яўрэйскія могілкі ў Сухаволі зараз не існуюць. Стаіць там помнік, але нічога не захавалася.

**— У 2010 годзе на сухавольскім кіркуце з'явіўся помнік, які інфармуе, што тут былі калісьці яўрэйскія могілкі. Сухаволя маўчала дзясяткамі гадоў пра сваіх суседзяў. Зараз атрымаецца размаўляць пра іх без эмоцый?**

— Думаю, што гэта не толькі праблема Сухаволі. У невялікіх мясцовасцях, якіх насельніцтва да вайны складалі прынамсі ў палавіне яўрэі, часта маўчалі. Вядома, што і ў нас мелі месца эпізоды, пра якія цяжка ўспамінаць. Тым больш, што не толькі акупанты з'яўляліся агрэсарамі, але і мясцовыя жыхары.

**— Калі б не помнік на сухавольскім кіркуце, ніхто і не ведаў бы, што гэта святое месца. Хаця на помніку знаходзіцца надпіс, які інфармуе, што «могільнік аднаўлены», у тым месцы ўсё зарасло, а кусты і блізкасць з дарогай нумар 8 справілі, што тут спыняюцца кіроўцы грузавікоў. Што Цэнтр хоча рабіць дзеля ратавання яўрэйскай спадчыны?**

— Мы не хочам нічога ўваскрашаць. Думаю, што гэта не наша задача, каб ратаваць, напрыклад, яўрэйскую культуру. Мы можам яе дакументаваць, паказваць як было, але зараз ужо няма ў Сухаволі ніводнага прадстаўніка гэтай меншасці. Засталося, як самі бачыце, няшмат памяткак, апрача таго будынкі. Маем яшчэ былыя яўрэйскія камяніцы, якія захаваліся ў даволі добрым стане.

**— Жыхары гміны ўключыліся ў акцыю «Дар для музея». А ці карыстаюцца яны з вашых культурных прапаноў?**

— Па-першае, ёсць вялікая розніца паміж тым, што зараз, і тым, што тут было раней. Калі казаць пра мерапрыемствы, то большасць з іх стараемся вытрымліваць у духу шматкультурнасці. Думаю, што пазітыўнае стаўленне можна бачыць у супрацы. Калі б не людзі, не мелі б мы ніводнага экспаната. Гэта вялікае сведчанне аб тым, што гэтае месца даценілі.

**— Ведаю, што чакаеце пачатку турыстычнага сезона. Аднак хачу запытаць, якімі падзеямі завершыце гэты?**

— Па-першае, заахвочваем, каб паглядзець наш альбом здымкаў пасляваеннай Сухаволі. Пры дапамозе бібліятэкі, якая ўжо раней займалася збіраннем старых здымкаў, нам удалося стварыць непаўторны архіў — амаль 200 здымкаў, на якіх відаць як гарадок быў знішчаны, колькі стаіць драўляных будынкаў. Падругое, яшчэ перад калядамі плануем сарганізаваць прамоцыю кніжкі пра нашу гміну аўтарства гісторыка Гжэгажа Рыжэўскага.

**— На самой справе д-р Рыжэўскі таксама ўраджэнец гміны Сухаволя?**

— Так, таму вельмі грунтоўна пахіліўся над даследаваннем яе гісторыі. Многа часу правёў у архівах, у тым ліку гродзенскім і мінскім.

**— Здаецца, што ўвесь час працягваюцца працы над перакладам Кніг памяці сухавольскіх яўрэяў?**

— Я ведаю пра адну і гміна ў гэтым дапамагае. Мы, як Цэнтр, таксама атрымалі ўжо частку перакладзеную на польскую мову. Спадзяемся, што знойдуцца таксама грошы на выданне кнігі памяці і прамоцыю ў нашым Цэнтры. Але гэта ўжо ў наступным годзе.

**— Жадаю поспехаў і дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Грузія — мая любоў (частка 4)

*Za każdym razem, gdy byliśmy w Gruzji, przychodził moment. Kiedy Ania miała dość. — Nie mogę, no kurde, nie mogę, ja już dłużej z nimi nie wytrzymam — zapowietrzała się, mając na myśli bliski naszemu sercu dumny naród gruziński i przede wszystkim jego nienachalny stosunek do punktualności (...)* Anna Dziewit-Meller, Marcin Meller, *Gaumardżos. Opowieści z Gruzji*.



Сігнагі

Вакзал Дзідубе ў Тбілісі кішыць народам. Натоўп носіцца туды-сюды, з сумкамі і без, хтосьці подбегам, іншыя вальней. Паміж людзьмі, манеўруючы па калдобінах, у любое свабоднае месца ўплюшчваюцца машыны, большыя і меншыя, легкавыя і бусы. Вакол іх групы мужчын, якія голасам і багатымі жэстамі запаўняюць таксоўкі і маршруткі людзьмі. На першы погляд нагадваюць славутых рыначных рэкеціраў 1990-х гадоў, тым не менш сапраўды дапамагаюць разабрацца, куды якая машына едзе (назва канчатковай станцыі за лабавым шклом вельмі часта толькі па-грузінску), паднясуць багаж, пасадзяць на месца.

Найбольш недарэчнае пытанне, якое можаце задаць кіроўцу ці яго памагатым: калі паедзем? Адказ просты: неўзабаве, або калі прыспее час. На практыцы, калі машына запоўніцца пасажырамі. А хто ж можа ведаць, калі гэта будзе?

Варта ведаць цану праезда. І мець адлічаныя грошы. Першы раз у Дзідубе завёз нас Малхаз Чэмія, паказаў адкуль адпраўляюцца маршруткі ў Кутаісі і сказаў, што дарога каштуе сем лары. Тым не менш, я ў Кутаісі спытаў кіроўцу пра цану (у Грузіі прынята плаціць пры выхадзе), а той не міргнуўшы вокам сказаў: дзесяць лары з чалавека. Падобнае здарылася на ўсходзе Грузіі, паміж Цноры і Лагадэхі. Вадзіцель закругліў цану білетаў да дзесяці лары, а за той самы праезд у другі бок заплацілі мы шэсць.



У кутаіскай забягалаўцы з гасціннымі гаспадарамі



Манументальны сабор Алавердзі ў Алазанскай даліне

Гэтыя ашуканствы самі па сабе не такія страшныя, тым не менш заўсёды прыкра, калі застаешся ў дурнях, а тут яшчэ і бачыш, што цябе абдурваюць, так сказаць нахабна, у белы дзень. Вельмі крыўдна было нам, калі ў перасадачным пункце ў Хашуры, на раз'ездзе дарог з Тбілісі ў Баржомі і Кутаісі, адзін такі памагаты назваў цану білета „дзесяць лары", прыгледзеўся нам, набраў паветра і дадаў: з чалавека. Я адразу ведаў, што цана ўдвая завышана, але пакуль падумаць, заплаціў. Думаю, нічога страшнага, затое папрашу кіроўцу, каб скінуў нас у цэнтры. „Так, так, едзем праз цэнтр, ведаю, дзе вуліца Тбіліская". У Кутаісі маршрутка аб'ехала цэнтр па новай, шырокай аб'язной, на пытанне, як нам туды дабрацца, паказаў таксоўку, а на закід, што нас абдурыў — нічога не сказаў, бо перастаў разумець па-руску.



Цноры. Экалогія па-грузінску

Непрыемны асадак хутка апаў з нас як дарожны пыл, бо ўжо ў той сам дзень сустрэліся з сардэчнай гасціннасцю гаспадыні пансіёна і старэйшага сужонства — уладальнікаў маленькага бара па дарозе да сабора Баграці, да якіх мы забеглі на хачапуры. Усярэдзіне стаялі ўсяго два пластмасавыя столікі. За адным хтосьці абедаў, за другі селі мы. З'елі па салідным куску грузінскай *піцы*, выпілі паўлітра хатняга віна і абышлося нам гэта ў больш-менш за пяць злотых. Размова з гаспадарамі была грацыс. А віно на вынас гаспадар гасцям з Польшчы хацеў прадаць танней чым грузінам, на што мы не пагадзіліся. Тут я ўспомніў расказ сябра-паляка, якому напрыканцы мінулага стагоддзя спёрлі ў тбіліскай цырульні дублёнку. І гаспадар, і госці салона згодна запэўнівалі: *Если б они знали, что вы из Польши, они б не украли*.

* * *

– *Алиночка, дорогой*, – вітала нас у Сігнагі Було Кандэлакішвілі, якая як многія грузіны блытала мужскі род з жаночым (наш сябра ўвесь час кажа: *этот церков*). Ёй ужо за семдзесят, працуе яшчэ настаўніцай матэматыкі і здымае пакоі турыстам у свaім як быццам падвешаным да неба над Алазанскай далінай доме. Як большасць начлегаў у Грузіі, яе прапанову знайшлі мы праз букінг. І, як нідзе, не расчараваліся. *Зачем тебе фрукты покупать? Иди в огород, кушай на здоровье*. Спадарыня Було неяк так натуральна жыве па прынцыпе: госць у дом, Бог у дом. І смачна варыць. Мы ўжо пасля першай вячэры зразумелі, што мясцовыя рэстараны на нас не заробяць. А па вінаград не трэба было нават хадзіць у сад, бо якраз даспяваў над тэрасай, прама над столікам, за якім мы снедалі і абедалі.

Гасціннасць бывае, аднак, часам прычынай непаразуменняў. Було Кандэлакішвілі ўвесь час усміхаецца, дагаджае гасцям. *Никакой проблэм*, — сказала, калі мы спыталі, ці можам застацца яшчэ на адну ноч. Наступнага дня была крыху здзіўлена, што мы не збіраемся ў дарогу. Калі мы тлумачылі, што ўчора ж усё ўзгаднілі, яна ветліва ўсміхалася. Аказваецца, ветлівая ўсмешка і падтакванне гасцям не заўсёды абазначае, што цябе зразумелі. На шчасце, наш пакой быў свабодны і мы маглі там яшчэ пераначаваць.

Сігнагі гэта турыстычны праект Міхаіла Саакашвілі. Горад на вышыні, абведзены абарончым мурам, быў сховішчам навакольнаму насельніцтву ад ворагаў, якіх шмат наведвалася на гэтую ўрадлівую зямлю. Прайшоў ён выдатную рэканструкцыю і цяпер усюды рэкламуецца як *горад закаханых*. Прыгожы, з добрай начлежнай і рэстараннай базай, з'яўляецца зручным месцам дзеля пазнавання Кахетыі. Праўда, на турыстычны аб'езд трэба ўсё-такі зняць машыну (з чым, дарэчы, няма ніякіх праблем), тады за дзень можна ўбачыць манументальны сабор Алавердзі, руіны колішняй сталіцы Кахетыі Грэмі і сярэднявечнай акадэміі Ікалта, у якой штудзіраваў Шота Руставелі, і палац князёў Чаўчавадзе ў Цынандалі, і некалькі вінніцаў, у якіх можна скаштаваць вінаграду прама ў вінаградніку і гатовага віна ва ўтульнай піўнічцы. Я рэкамендую вінны завод Шумі каля Тэлаві і абавязкова невялікі гарадок Кварэлі, дзе робяць славутае Кіндзмараулі.

З Сігнагі можна паехаць на пустыню Вашлавані каля Азербайджана. У гэтым выпадку спатрэбіцца, аднак, салідная машына — пазадарожнік і дасведчаны кіроўца, які не толькі не згубіцца ў дзікай ваколіцы, але і ведае, дзе можна падгледзець арла ці сіпа, можна сустрэць ваўка, гіену ці мядзведзя. Затое ў горы Лагадэхі (на мяжы з Дагестанам) на некалькігадзінны трэкінг па зялёным лесе можна дабрацца на рэгулярнай маршрутцы. Трэба толькі спусціцца з гары ў мястэчка Цноры, праз які ідзе транспарт у і з Тбілісі. А ў манастыр Бодбе, дзе пахаваная асветніца Грузіі, роўнаапостальная святая Ніно (рэліквія яе крыжа з вінаградных вітак, звязаныхваласамі захоўваецца ў саборы Сіёні ў Тбілісі), можна дабрацца пехатою. Мы такі парыкіламетравы шпацыр ажыццявілі ў палове кастрычніка. Праўда, па сваёй віне крыху збіліся з дарогі. Стаяў сонечны, цёплы дзень і вада ў крыніцы святой Ніно не толькі спатоліла смагу, але і здалася нам сапраўды гаючай.

Папулярная таксама мэта паездкі з Сігнагі — манастырскі скальны комплекс Давід Гарэджа. Туды можна дабрацца і з Тбілісі, гэта папраўдзе тая самая дарога, а выбар транспарту ў сталіцы большы. А куды яшчэ варта выбрацца і на чым даехаць — праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны ВАЎРАНЮК і аўтара**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Маці і сын — яны не паддаліся цяжкай долі

Раскажу вам гісторыю адной сям'і. Яна мяне кранула за душу. Першы элемент — гэта гісторыя бабулі. Яна ад самага пачатку не мела лёгка. Яе бацька злоўжываў алкаголем і яна з сёстрамі часта ўцякала з дому. Калі ёй было 18 гадоў, яна выйшла замуж. Яе партнёр таксама любіў выпіць. Ёй здавалася, што жыццё злавіла яе ў нейкую фатальную пятлю. Цяжка жылося. Заўсёды не хапала грошай і жанчына ездзіла ў Беларусь, каб потым гандляваць прывезеным таварам і яшчэ шмат працавала на гаспадарцы.

Цяпер яе муж гэта сімпатычны дзядуля, але цягам жыцця ён начвэрыў жонцы і дзецям многа стрэсавых сітуацый.

Наступны элемент гісторыі гэтай сям'і, гэта жыццё іх старэйшага сына.

З ранніх гадоў ён любіў чытаць кніжкі. Хацеў стаць археолагам, але не змог развіваць сваіх зацікаўленняў. Ён закончыў тэхнікум і доўга шукаў працу, бо гэта быў час, калі маладым людзям цяжка было знайсці працу. Я чула, што ён моцна пасварыўся з бацькам. Магчыма з-за гэтага, што ён хоча быць для сваіх дзяцей адначасова сябрам і добрым бацькам.



Працы Алівіі Кузьмы

Калі яму споўнілася 30 гадоў, ён сустрэў будучую жонку. Пасля нейкага часу зладзілі вяселле. Хутка на свеце паявіліся дзеці і яны пачалі гаспадарыць на бацькаўшчыне жонкі. Гаспадарка была невялікая, трэба было ўкласці шмат працы, каб яе мадэрнізаваць. Цесць не пагаджаўся з прапанавамі зяця і яны пасварыліся. Усё закончылася тым, што цесць купіў кватэру і з'ехаў жыць у горад.

Хоць яны больш не сварыліся, мужчыну моцна забалелі словы, якія ён пачуў ад жончынага бацькі. Ён так гэта перажываў, што яму патрэбная была дапамога псіхолага.

Гэта толькі фрагмент гісторыі гэтай сям'і. Многа фактаў я абмінула, бо гэта надта асабістыя справы. Найважнейшае тое, што маці і сын у гэтай сям'і вельмі адважныя людзі. Адважныя, бо не паддаліся цяжкай долі, а змагаліся за свой лепшы лёс і беглі дзяцей. Для мяне яны героі, не толькі ў сваіх сем'ях.

**Алівія Кузьма,**
Мастацкі ліцэй у Супраслі
(раней Гімназія ў Нараўцы)

*Беларускія калядкі*

## ЦІХАЯ НОЧ

Ціхая ноч, святая ноч!
Усё спіць, сніць даўно.
Толькі Маці Святая усцяж
Ціха ў яслях люляе Дзіця –
Спі, Сыночак малы,

Люлі–люлі, спі!

А угары усё гарыць
Серабром зорных крыг,
Хор анёлаў пяе пастухом
Аб Дзіцяці, што будзе
Хрыстом,
Светлай песняй хвалы
Славяць Збаўцу зямлі.

Ціхая ноч, святая ноч,
Ў родны край завітай,
Людзям сум і тугу разгані,
Хай жа цешацца ў гэтыя дні,
У ціхую, святую ноч,
У ціхую, святую ноч!

## УВАГА КОНКУРС! № 50-18

З'еў алоўкі,
і рот на замок трымае.
Усярэдзіне
шмат
багацця хавае.
П....
(прыдумалі: Іван Карсунскі, Шыман Івановіч і Матэвуш Цімашук з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку).

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 30 снежня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 46: каліна.
Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Ніколь Басай з Нараўкі, Анна Харытанюк з Шудзялава, Зузанна Попко з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, Дамініка Бобель, Аня Філіманюк з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Магдалена Косцік, Раксана Спора з Орлі. Віншуем!

№ 50 [16-12-2018]



# Маляванка з бульбай!

Той хто чытае кожны нумар «Зоркі», памятае захапленне Іванкі Карсунскага духмянымі стравамі з бульбы. Шахматыст і паэт Іванка злажыў такі вершык пра дранікі, што ажно сліна пацякла ў чытачоў. Гэта было на Сустрэчах «Зоркі», дзе кожны дзень мы каштавалі смакоцці з бульбы, грыбоў, ягад і зерняў.

Бульба — беларуская нацыянальная страва. Яе называюць другім хлебам, а нават сімвалам краіны. У пашане дранікі, таўканіцы, галушкі, прысянкі, таркачы...

Бульба родам з Амерыкі. У Беларусі пачалі яе вырошчваць у часы караля Аўгуста III, на Гродзеншчыне. Спачатку яе называлі зямнымі яблыкамі. Сяляне не палюбілі бульбы адразу. Яны першапачаткова адмаўляліся яе садзіць і вырошчваць. Цягам стагоддзяў усё адмянілася. Бульба не толькі нацыянальная страва. Яна сімвал «выжывання і бяспечнасці». Калі які жах, беларусы кажуць: *Хавайся ў бульбу!* А мы прапануем вам чарговую маляванку з беларускім прысмакам.

**Зорка**

*Малюнак «Бульба» Алены Шалімы*

Рыгор Барадулін

## ЧЫШЧУ БУЛЬБУ

Памалу чышчу бульбу з той зямлі,
Якую помню босымі нагамі,
Навобмацак рукамі пад снягамі
Зямлю пазнаю,
Бо на ей былі
Усе мае, што сталі каранямі,
Пясчынкамі,
Лясных дарог краямі,
Што з тлумнымі паводкамі сплылі.
Там бульбай адбывалі
Святы ўсе:
На клёцкі бульбудралі на хаўтуры,
З душамі клёцкі дзень віталі хмуры
У кроплях пары,
Нібыта ў расе.
І на Дзяды таксама клёцкі елі,
Напаміналі, што не вечна ў целе
Душа святло дрыготкае нясе.
Вячэра будзе смачнай, як тады,
Калі цалкі скакалі ў рот са спрытам,
Калі з цяпер забытым апетытам
Нішчымніца чакала лебяды.
Я чышчу бульбу,
Пахнуць ацяробкі
Сцяжынкамі, што выбеглі на ўзлобкі.
Як мама,
Клічуць даўнія гады:
«З печы, з полу
Сабірайцеся к столу!..»

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Для кожнага сваё шчасце

Паспрачаліся гарэзлівыя цялічкі з прыгорбленымі валамі:

— Чаму вы такія працавітыя, — папракалі цялічкі, — вы ж за работай свету не бачыце! Ці не лепш смачна паесці, пабрыкаць, а пасля паляжаць на саломе?

Валы нічога не адказалі, яны апусцілі зрок і пацягнуліся да работы.

Прыехаў аднойчы цар з войскам і світай. У сяле зрыхтавалі пір. Служкі сагналі ўсіх цяліц ды парэзалі іх на абед для цара і яго войска. А валы ўсё бачылі і сказалі:

— Вось дзеля гэтага дня і трымалі вас, гарэзлівых цялічак. Даглядалі і добра кармілі, каб вы патаўсцелі і лепш смакавалі. Нас, згорбленых, худых рабацяг, не бяруць пад нож. Шчасце вала ў штодзённай перагружанасці работай.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# Польска-беларуская крыжаванка № 50-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46-2018:**

Ляск, абутак, раз, звук, капа, басейн, балет, ар, фінал, аса, клін, ар, анты, праца. Браток, лапы, ла, ліза, фін, Ян, бінт, збан, кавалак, бусел, букет, ар, ара, Парнас, раса.

Узнагароды, святочныя наклейкі, выйгралі **Сара Марціновіч, Матэвуш Сямёнчык** з Орлі, **Аляксандра Іванюк, Мацей Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Мая Куптэль** з Нараўкі, **Карнэлія Рамазэвіч** з Шудзялава, **Іаанна Мусюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Наталля Салавей** з Залук, **Гжэгаж Вуйтовіч** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Кацпэр Каліноўскі** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Krok / Niania | | | | | Krówka / Rzym | | Debil / Szczyt | |
| | | Kok / Huśtawka | Gniew | | | | | |
| | | Jak / Grzyb | | | | | Chiny | |
| | Glina / Skrzacik | | | | | | | Kort |
| | Lew / Nos | | | | Liczba | | | |
| Poletko / Ton | | | | | | To | | |
| | | | | | Upał | | | |
| Sad | | | | Strona internetowa | | | | |

## Бяспека і публічны парадак у Арлянскай гміне

Жыццё ў Орлі плыве санлівым, павольным рытмам. У цэнтры ад гадоў пуста і... бедна. Геэсаўскія крамы пустуюць, ніш-чэюць; сарамлівы вобраз развесяляе намаляваны на вуглавой сцяне вялікі герб «Ягелоніі». Людзей круціцца мала, а пасля 16-й гадзіны зусім няма. Час ад часу больш людзей і самаходаў у цэнтры Орлі з'яўляецца дзякуючы банкетнай зале «Маэстра» — стаянка занятая вечарам абазначае вяселле, занятая ўдзень — памінкі, якія апошнім часам штораз часцейшыя.

У бліжэйшым наваколлі дзейнічаюць тры прыватныя крамы, побач адной піўны агародчык. Адзіны прыватны бар дзейнічае на акраіне Орлі. Любіцеляў усякіх развесяляльных напояў не меншае, але большасць людзей купляе алкаголь на вынас дадому. Алкаголь для людзей, пад ім полкі гнуцца ў крамах, але яго празмернае спажыванне шкодзіць здароўю і бывае таксама прычынай дарожных выпадкаў, хуліганства і сямейных канфліктаў. І ў такой Орлі ліха не спіць.

На сесіі Гміннай рады 18 кастрычніка г.г. радныя атрымалі пісьмовую інфармацыю пра стан бяспекі і публічнага парадку на тэрыторыі Арлянскай гміны за перыяд з 1 верасня 2017 да 31 жніўня 2018 года. З яе вынікае, што сітуацыю трэба ацаніць з... задавальненнем. За згаданы перыяд зафіксавана 22 законапарушэнні (годам раней 26, а, напрыклад, у 2015-2016 гг. — 29, у 2008 годзе — 37). Гэта паказвае невялікі спад.

У гміне, як і раней, дамінуюць законапарушэнні здзейсненыя нецвярозымі вадзіцелямі, парадкавыя правапарушэнні, а таксама маёмасныя. Паменшаў лік паліцыйных інтэрвенцый; было іх 223, а годам раней — 262.

Як паведамляе інфармацыя ўчастковага Марціна Парфенюка, акцыяй «Блакітных карт» было ахоплена шэсць сем'яў, зараз асталася адна сям'я. Яны пад пастаяннай увагай участковага, а іх сямейная сітуацыя і паводзіны пад бягучым наглядам. Прычынай гэтаму празмернае спажыванне алкаголю паднаглядным.

Дзеля паляпшэння стану бяспекі жыхароў Арлянскай гміны службоўцы бельскай Павятовай управы паліцыі праводзілі адукацыйна-прафілактычныя дзеянні. Рэалізавалі, м.інш. такія акцыі, як «Бяспечная дарога дадому/у школу», «Бяспечныя канікулы», «Не будзьма абыякавымі», «Стоп кібернасіллю», «Юрыдычная адказнасць малалетніх». Сярод сеніёраў праводзілі інфармацыйную акцыю наконт ашуканскіх дзеянняў метадам «на ўнучка і паліцыянта». Акцыя прынесла пажаданы вынік, бо не зафіксавана такіх правапарушэнняў.

У рамках паляпшэння бяспекі ды распаўсюджвання ў грамадстве інфармацыі наконт праграмы «Краёвая карта пагроз і бяспекі», аплікацыі «Мая камендатура» ды праграмы «Участковы бліжэй нас» былі ладжаны сустрэчы з жыхарамі гміны. У згаданы перыяд сярод адзначаных 22 законапарушэнняў былі зафіксаваны пяць пакраж, адна бойка, пяць нецвярозых вадзіцеляў (годам раней 9), адно пашкоджанне маёмасці і дванаццаць іншых законапарушэнняў.

У перыяд з 1 жніўня 2017 да 31 студзеня 2018 года распазнанымі пагрозамі ў раёне адпачынковага парку ў Орлі было спажыванне алкаголю ў публічным месцы, засмечванне, дэвастацыя маёмасці, парушанне спакою, парадку і начнога адпачынку. Такія самыя правапарушэнні былі ў першым паўгоддзі бягучага года ў раёне спажывецкай крамы. Участковы склаў і зрэалізаваў план прыярытэтных дзеянняў.

Улічваючы гэта можна заключыць, што тэрыторыя Арлянскай гміны ў ліку перадавых у абсягу Бельскага павета па ўзроўні бяспекі і публічнага парадку.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Каляды на Падляшшы



**Ужо ў канцы лістапада адчуваецца, што неўзабаве прыйдзе да нас адно з найважнейшых хрысціянскіх святаў. Напрыканцы восені ў цэнтры Беластока вечарам і ноччу разгараюцца святочныя лямпачкі. Хаця яшчэ ў хатах няма ёлак, то ў крамах заранней з'яўляюцца ёлачкі, па тэлебачанні і радыё гучаць калядныя рэкламы і несмяротная песня Джорджа Майкла «Last Christmas»... Аднак святочныя лямпачкі, рэкламы ці «Last Christmas» не найважнейшыя. Менавіта ў нас, праваслаўных, у канцы лістапада пачынаецца Піліпаў пост, які ў народзе завуць Піліпаўкай. І хаця людзі гавораць, што гэта лёгкі пост, то святары загадваюць пасціць. Насамрэч кожны пост гэта вельмі добрая душэўная падрыхтоўка на вялікага свята і варта пасціць, вядома, калі нам дазваляюць магчымасці.**

### СВЯТЫ ПІЛІП

Піліпаў пост пачынаецца прыблізна пасля 25-27 лістапада. Прысвечаны ён адному з дванаццаці апосталаў Ісуса Хрыста — Піліпу. Пра святога Піліпа згадваецца ў Евангеллі тройчы — калі прывёў у апосталы да Хрыста Нафанаіла (Варфаламея), калі Хрыстос накарміў многа народу хлябамі і калі ў час Тайнай Вячэры прасіў Хрыста паказаць яму Айца. У Дзеяннях Апосталаў згадваецца, што пасля Хрыстовага ўзнясення апостал Піліп прапаведаваў Хрыстову Веру ў цяперашняй Галілеі, а пасля ў Грэцыі, а таксамі ў Скіфіі і Фрыгіі. Апостал Піліп быў жанаты і меў чатыры дачкі. У 80 годзе н.э. Піліп за сваё прапаведніцтва веры быў распяты галавой уніз у горадзе Іерапалі-Фрыгійскім у Малой Азіі. Піліп гэта святы праваслаўнай, каталіцкай а таксама пратэстанцкай цэркваў. Праваслаўная царква адзначае памяць 27 лістапада па новым стылі.

### ПІЛІПАЎ ПОСТ

Першы раз пра Піліпаў пост згадваецца ў IV стагоддзі. Тадышнія хрысціяне святкавалі яго толькі 7 дзён. Аднак з 1016 года ўказам канстанцінопальскага патрыярха Лукі Хрысаверга, а пры панаванні імператара Мануіла, Піліпаў пост прадоўжылі да 40 дзён. Дарэчы, у Армянскай Апостальскай Царкве пост надалей адзначаецца сем дзён — з 30 снежня да 5 студзеня, так як было ў даўніх хрысціян. У Каталіцкім касцёле, падобна як у Праваслаўнай царкве, пост перад Нараджэннем Хрыстовым адзначаецца каля 40 дзён і называецца Адвэнтам.

### СВЯТЫ Ў ЧАС ПІЛІПАВАГА ПОСТУ

У час Піліпавага посту Нараджэнне Хрыстова папярэджвае некалькі вельмі важных святаў: 4 снежня — Увядзенне Прасвятой Багародзіцы ў Храм — адно з найважнейшых 12 праваслаўных святаў, калі Багародзіца, будучы маленькай дзяўчынкай, аддаецца сваімі бацькамі Якімам і Аннай у Храм, дзе будзе пражываць сярод набожных жанчын да 14 года свайго жыцця. Дарэчы, калі св. Анна, маці Багародзіцы даведалася ад Ангела, што народзіць Дзіця, абяцала Богу, што нягледзячы на пол, прысвяціць яго службе Богу.

Пазней, 19 снежня, Царква адзначае свята ў гонар св. Мікалая, які нарадзіўся 15 сакавіка 270 г. н.э. у Патары, а памёр 6 снежня 343 г. н.э. у Міры ў Лікіі. Гэта супольны святы Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў. Быў епіскапам, які адзначыўся многімі цудамі і дапамагаў бедным людзям. Зараз святы Мікалай гэта патрон уз'яднання Усходу і Захаду.

17 снежня — дзень святой Варвары. Нарадзілася ў III стагоддзі ў горадзе Іліопаль у цяперашняй Сірыі ў паганскай сям' і. Калі ў час навукі прыняла Хрыстову веру, бацька, язычнік, стараўся вярнуць яе ў паганства, аднак яна не ўступіла бацьку. Таму бацька данёс на яе ўладам, якія праследавалі хрысціян. Яе зняволілі ў вежы. Перад смерцю з' явіўся ёй Ангел з келіхам Цела і Крыві Хрыстовай і прычасціў яе. У 305 годзе яна памерла пакутніцкай смерцю — мячом адсеклі ёй галаву. Святая Варвара ўшаноўваецца Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі. У Польшчы яна патронка шахцёраў — на Шлёнску 6 снежня гучна святкуюць «Барбурку». Рэліквіі святой Варвары спачатку захоўваліся ў Канстанцінопалі, а зараз знаходзяцца ў Кіеве.

### КАЛЯДЫ Ў ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

Праваслаўныя Каляды на Падляшшы святкуюць, пачынаючы з 6 студзеня (Куцця), затым працягваюцца тры дні, з 7 па 9 студзеня. Каляды — адно з найважнейшых свят у гонар нараджэння Ісуса Хрыста, Сына Божага, якога ўшаноўваюць усе хрысціяне на свеце. І так ад нараджэння Хрыста пачынаецца новая эра ў летазлічэнні. А Хрыста нарадзіла Марыя Багародзіца, Прачыстая Дзева. Хрыстос прыйшоў на свет як Цар Нябесны, які меў людскую і Божую натуру. Прыйшоў, каб збавіць свет, ачысціць ад граху. Хрыстос прыйшоў да людзей бедных, хворых і Яго патрабуючых і пачаў прапаведаваць новую веру — хрысціянства, якому, зараз больш за 2000 гадоў.

### ПІЛІПАЎ ПОСТ І КАЛЯДЫ Ў НАРОДЗЕ

Паводле расказу маёй бабулі Марыі Буйнюк з дому Самасюк (1920-2008), якія я запісаў на магнітафонную плёнку 7 студзеня 2001 года, яе бацькі, а мае прадзеды Антон і Уляна Самасюкі з Чахоў-Арлянскіх вельмі строга пасціці. У час Піліпавага посту не елі мяса, ні малочных прадуктаў, а вараную страву елі толькі ў нядзелю. Перад Калядамі гаспадары малаціл і збожжа цапамі, вазілі дровы з лесу. А жанчыны пралі воўну. У пост перад Калядамі ніхто не спяваў свецкіх песень, не ладзіў музыкаў, не піў алкаголю. Гэта быў час задуменнасці і малітвы.

Ад Увядзення Багародзіцы ў Храм можна было спяваць калядкі. Ва Увядзенне ў Храм спявалі «Трехлетнюю Девицу, непорочную Владычицу, вводим в церковь». Калі надыходзіла свята Варвары, то ў народзе гаварылася, што «Варвара кусок ночы ўварвала», значыць, дзень стаўся даўжэйшы.

Тыдзень перад Руздвом калолі свіней, але мяса елі толькі на Каляды. Пад Куццю ехалі ў Орлю да яўрэяў і куплялі ў іх рыбу і селядцы, муку. Арлянскія яўрэі вельмі цешыліся, што праваслаўныя купляў ў іх прадукты і казалі: «А каб у вас кожны тыдзень былі гэтыя Каляды», таму што добра на гэтым зараблялі. На Куццю быў строгі пост — з раніцы да вечара нельга было есці і піць. Жанчыны ў хаце гатовілі стравы м.ін. боршч з грыбамі, грачаную бабку, селядцы і рыбу, шчолак — кампот з сушаных груш і яблык, кісель з аўсянай мукі. Не ўсюды ў гэты вечар елі куццю. Напрыклад, у Чахах-Арлянскіх куццю давалі толькі ў час пахаванняў. На Куццю гаспадар уносіў у хату сноп збожжа — «коляду» і ставіў у кутку. Дарэчы, колядай да гэтай пары называюць дзень перад Калядамі. Вечарам усе санямі ехалі ў царкву на ўсяночную. Пасля вярталіся і віталі тых, хто не быў на ўсяночнай словамі «Паздраўляем з празнікам Рузд ва Хрыстовага». Тады гаспадыня вымала свойскую каўбаску, мяса, а гаспадар ставіў чарку і ўсе хатнія гасцявалі. На першы дзень Каляд не прасілі гасцей і не ладзілі забаваў, толькі калядавалі. На другі дзень Каляд моладзь збіралася ў адной з хат, наймала вясковага музыканта і пад гукі гармоніка гуляла да рання. А танцавалі тады танга, факстрот. Так згадвала мая бабуля Марыя Буйнюк. Але гэта ўжо гісторыя.

### КАЛЯДЫ СЁННЯ

Каб пачуць сапраўдны дух праваслаўных Каляд, трэба іх правесці на падляшскай вёсцы. Таму мы з жонкай штогод дзелім Каляды на паловы — збіраемся ў яе родныя Рыбалы, а пасля ў Маліннікі, дзе жывуць мае бацькі. Сённяшнія Каляды сваім фалькорным абрадам не нагадваюць расказаў маёй бабулі, а нават Каляд з майго дзяцінства ў 90-х гадах. Пад Каляды ўжо ніхто ад некалькіх гадоў не гадуе свінак, каб мець свойскае мяса, паколькі Еўрасаюз забараніў свінагадоўлю на Падляшшы. На калядным сталле па-за грыбнымі стравамі і шчолкам са свойскіх яблык і груш амаль усе стравы зроблены з прадуктаў купленых у крамах. Яшчэ ў 1990-я гады на першы дзень свят Каляд хадзіла вельмі многа калядоўшчыкаў, а зараз гэта рэдкасць. Калі калядуюць, дык дзеці, якія з Беластока прыехалі да бабуль у Малінніку. Тым, што не змянілася, гэта ўсяночная, на якую збіраемся ўсёй сям'ёй. Ёсць ёлка, падарункі, як у часы майго дзяцінства. А на Каляды збіраецца ўся сям' я. Каляды па старым стылі святкуюць таксама баптысты — радня маёй мамы, якая кожны год наведвае нас.

### КАЛЯДКІ

Я вельмі люблю слухаць калядкі, асабліва ў выкананні «Хлопцаў-рыбадоўцаў», якія ведаю з 1998 года. Вельмі люблю таксама калядкі з Палесся ў выкананні фольк-этнагрупы «Дрэво» з Украіны. Люблю таксама калядкі ў выкананні нашых папулярных беластоцкіх гуртоў, такіх як «АС», «Прымакі», «Анонім». Дарэчы, я нядаўна размаўляў з заснавальнікам гурта «Анонім» Маркам Зайкоўскім, вядомым беларускім аранжыроўшчыкам, які сказаў, што зусім не спадзяваўся, што беларускія калядкі на словы Віктара Шведа будуць карыстацца такой вялікай папулярнасцю ў нашым беларускім асяроддзі. Можа гэта дзякуючы Мікалаю Бушко, тадышняму дырэктару Гайнаўскага дома культуры касеты гурта «Анонім» з беларускімі калядкамі распрадаліся па ўсім Падляшшы вельмі выдатна, хаця касета запісвалася ў вельмі сціплых умовах. Таксама і я калісьці калядаваў са сваімі сябрамі, ходзячы ад хаты да хаты з гвяздай і свяваючы калядку «Нова Радасць стала» ці слаўнае «Рождество Христово». Такія былі часы...

Юрка БУЙНЮК



# ВОЙШКІ

**Здаецца мне — калі я надта не памыляюся — што калісь у „Ніве” пра Войшкі было шмат. А зараз быццам няшмат. Гэта і мая „заслуга”, бо ў ходзе сваіх бадзянняў па нашай Беласточчыне ў Войшках, калі не памыляюся, быў я дагэтуль толькі адзін раз, недзе каля дваццаці гадоў таму. І хаця думка наведаць гэтую мясцовасць заўсёды тлела ў маіх планах, то неяк не было ад яе, тае думкі, вогненнай успышкі. Але ж, у рэшце рэшт трэба — трэба сябе папросту прымусіць.**

З’ездзіў я ў Войшкі нядаўненька, у дзень тамашняга свята Арханёла Міхаіла. І ў той святочны дзень было б грэшна займаць людзям галаву сваімі дапытваннямі. Бо дзень Арханёла Міхаіла, гэта асаблівы дзень, адзін з трох на працягу года, калі ў тамашняй капліцы правіцца літургія; яшчэ гэты абрад спраўляецца на Варвару і ў дзень абыходу палёў. А так правяцца там толькі вячэрні ў пяць пасля поўдня ў кожную першую нядзелю месяца.

Сабраўся я ў дарогу ў бадай найбольш неадпаведны момант, у дзень, калі неба зацягнулі шэрыя хмары нагружаныя дакучлівым, хаця памяркоўным ледавітым дажджом. І не з Войшкаў пачаў я сваё падарожжы, але з Рыбал. Так мне акурат склалася ў той дзень, што на рэдкія камунікацыі з Беластока непасрэдна ў Войшкі не ўдалося мне забрацца. З Рыбал у Войшкі не надта далёка — раптам чатыры кіламетры. І дарога тая выходзіць акурат на пачатак, ці — калі глянуць з другога боку — на канец вёскі Войшкі.

Гэты ледавіты дождж не спыніў таго асаблівага паху, які ў прастору, па якой праляглa жвіроўка паміж згаданымі вёскамі, выкідвае птушкаферма, што ў рыбалаўскім прысёлку. А ў саміх Войшках паветра не забруджанае прымессю ад жывёлагадоўлі. Затое высяцца камбікормавыя вышкі, але толькі на адным гаспадарчым участку.

У пачатку вёскі — з боку Беластока — будынак былой школы. Змураваны ён быў у пачатку 1950-х гадоў. Войшкаўскія дзеці, як і ўсе іншыя ў нашым старонні, здабыўшы ў сваёй мясцовасці асноўную адукацыю і крыху аброслы ў жыццёвыя пёркі, падаліся за навукай далей, і далей, і далей — у жыццёвыя выраі. Гэтае бежанства ў свет хутка зрабіла ў Войшках дэмаграфічную чыстку, бо ўжо пасля чвэрці стагоддзя не стала там дастатковай для школы колькасці дзяцей і ў канцы 1970-х гадоў тамашняя асветная ўстанова спыніла дзейнасць, а дзяцей сталі давозіць у Багданкі, а калі і там закрылі школу — за вучобай трэба даязджаць у гміны Юхнавец; зараз туды школьны аўтобус давозіць з Войшкаў дзясятку дзяцей. Наймалодшы жыхар вёскі вучыцца менавіта ў пачатковай школе. А на школьным панадворку зараз пасвіцца кароўка, адна з трох, якія яшчэ пражываюць у Войшках; дзве апошнія пасвяцца недалёка тамашняга дома культуры, што пасярэдзіне вёскі...

А цягам мінаючага года пакінула Войшкі адзінаццаць пакойнікаў, адпраўляючыся на рыбалаўскія могілкі. У пачатку 1950-х гадоў у Войшках пражывала каля шасцісот чалавек. Зараз астаецца ў вёсцы 160-170 чалавек. І калі так штогадова адправіцца ў Рыбалы па дзясятцы пакойнікаў, то за пятнаццаць гадоў, калі лік насельніцтва будзе скарачацца з арыфметычнай паслядоўнасцю, у Войшкі трэба будзе імпартаваць насельніцтва. Дарэчы, у Войшках адбываецца няспешны асмоз насельніцтва, селяцца новыя людзі здалёк. І хаця ў свой час настаяцель Рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна рэкамендаваў сваім прыхаджанам зважаць на тое, каму прадаюць свае сядзібы, то працэс дэмаграфічнай дыфузіі наступае. Калісь у Войшках амаль усе былі праваслаўныя, пражывала там толькі адна каталіцкая сям’я, а зараз іх крыху больш...



Дом культуры




Краязнаўчы стэнд, што стаіць каля тамашняй капліцы, інфармуе: „Першапачаткова вёска знаходзілася над ракой Нарвай, ва ўрочышчы Прыстань, якое завецца таксама Цэрквіскам. Там таксама знаходзіліся могілкі і царква. Пра гэта сведчаць каменныя надмагільныя пліты, якія тут знаходзілі. Цяперашняе месцазнаходжанне Войшкі атрымалі ў выніку валочнай памеры (XVI ст.). На рацэ Нарва былі два вадзяныя млыны — Хведкі Маматовіча і братоў Радковічаў. Нават сёння жыхары вёскі называюць гэтае месца Млініска. Спіс маёмасці 1664 г. адлюстроўвае знішчэнні і гаспадарчы заняпад гэтых тэрыторый — у Войшках былі засеяны толькі 4 валокі зямлі. Вёска пачала адраджацца толькі ў часы кіравання старосты бельскага Я. К. Браніцкага. Войшкаўская карчма з паштовай станцыяй, якая абслугоўвала тракт з Варшавы цераз Бельск у Гародню, магла змясціць да ста коней. У XVIII стагоддзі ў вёсцы функцыянаваў бровар. Праз больш як сто гадоў, у 1888 г. Войшкі налічвалі 467 жыхароў. Тут таксама дзейнічала кузня ды 5 ветракоў. У міжваенным часе Войшкі былі адной з найбольш заселеных наднарвянскіх вёсак. У той час пачалі тут паўставаць прыгожа аздобленыя дамы. Многія арнаменты на хатах у Войшках былі зроблены рукамі Аляксея Рыжынскага...”.

Іншы стэнд, што каля тамашняга дома культуры, інфармуе пра месца Войшкаў на паштовай дарозе між Варшавай і Вільняй. Паштовыя станцыі знаходзіліся ў Варшаве, Акунёве, Станіславове, Макаве, Вэнграве, Саколаве, Гранным, Пабікрах, Браньску, Бельску, Войшках, Беластоку, Букшталі, Саколцы, Кузніцы, Гродне, Друскеніках, Мерачы, Аранах, Лейпунах, Святніку і Вільні. Па гэтай дарозе два разы ў тыдзень вазілі пошту з Варшавы ў Вільню і два разы ў адваротным напрамку.

Два разы была ўжо згадка пра войшкаўскі дом культуры. Варта прысвяціць гэтаму будынку крыху больш увагі. Недзе на схіле 1970-х гадоў Янка Целушэцкі пісаў у „Ніве”: „Тры гады таму назад задумалі войшкаўцы пабудаваць дом культуры. Выкарысталі будынак з разборкі аж з Беластока. Сёння стаіць ён ужо пасярэдзіне вёскі. Памяшчаюцца ў ім святліца, клуб селяніна, пакойчыкі для паасобных гурткоў. Знойдзецца яшчэ месца на бібліятэку з чытальняй і куточак для гуртка вясковых гаспадынь. Цяпер вясковы дом культуры служыць усім. Штодзень гэты ачаг культуры перш за ўсё запаўняецца гаманкой моладдзю. Культурнай дзейнасцю кіруе ў ім дзелавы і энергічны загадчык клуба пан Ляшэўскі. Ён вялікі прыхільнік мастацкай самадзейнасці”.

А некалькі тыдняў пазней наведаў Войшкі Мікола Гайдук: „Гэта быў вялікі парыў. Войшкаўцы launch ментальна зрабілі фундамент, перавезлі будынак і паставілі яго на новым месцы, гміна дапамагла яго выканчыць і памаляваць. І вось у 1974 годзе ў цэнтры Войшкаў закрасаваўся згрябны вясковы дом культуры. Што ж, прыцягваў ён вока прыезджых, але не цешыў сэрцаў войшкаўцаў. Ужо ад самага пачатку павялося ў ім не так, як трэба. Наняты гмінай нейкі прыватны майстар з Беластока так старанліва апырскаў увесь будынак супрацьгрыбным сродкам, што вось прайшло звыш чатырох год ад таго часу, а ад смуроду ў доме культуры ўседзець нельга, а калі пасядзіш у ім адну-дзве гадзіны, дык потым і праз месяц гэтага агіднага паху са свае вопраткі не пазбудзешся. Вось і не спяшаюцца людзі наведваць гэты дом-прыгажун. Не выйшла таксама і з мастацкай самадзейнасцю. Было так, што сабралася групка здольных і салідных хлопцаў, якія хацелі заснаваць у доме культуры эстрадны калектыў. Трэба было купіць інструменты і арганізаваць інструктаж. На жаль, адказныя за культуру працаўнікі юхнавецкай гміны замахалі на гэта рукамі ды нагамі і нават зламанага граша не прызначылі і інструктажам не памаглі. Хлопцы неяк самі і прывучыліся музычнаму майстэрству, і інструменты прыдбалі. Цяпер жа па навакольных сёлах граюць на вечарынах і вяселлях аж вокны звіняць, а ў свой дом культуры заглядаюць вельмі рэдка”. Да ўсяго гэтага Мікола Гайдук дадаў, што да пабудовы таго вясковага дома культуры культурная дзейнасць у Войшках, хаця ў цеснаце, але працвітала, а з часу яго ўзвядзення пайшла на спад.

Некалькі гадоў таму той не толькі супрацьгрыбны, але і заадно і, па сутнасці, супрацькультурны дом культуры знеслі і на яго месцы ўзвялі такі ж самы новы будынак, з новай драўніны. Праўда, вёска страціла сваю дэмаграфічную дынаміку і цяпер у тым доме культуры ладзяцца галоўным чынам адно трызны, час ад часу „васямнаццаткі”, а паколькі ў вёсцы асталося толькі старэйшае пакаленне, то ладзіць яно яшчэ і „шасцідзясяткі”...

У Войшках дзве прыватныя крамы, адна побач дома культуры і пажарнага дэпо, другая на канцы вёскі ад Бельска. Заглядаюць сюды і мабільныя крамы — чатыры ў тыдзень. Вёска захапляе амаль паўсюднай арнаментацыяй хат. На іх такія ўзоры, быццам арабескі, што адчуваецца нейкая нават казачнасць гэтай вуліцоўкі. Вуліца вымашчана асфальтам; ёсць там толькі адзін недастатак, які мне прыйшлося адчуць асабіста. Менавіта па вуліцы няма тратуара для пешаходаў і ў такую макраснежную непагадзь хадаку па тамашняй вуліцы прыдаліся б хадулі — нават дзеля таго, каб саступіць убок перад праязджаючымі самаходамі. Абяцанні праклacці тратуар паявіліся ў ходзе выбарчай самаўрадавай кампаніі, а калі паявіцца сутнасны тратуар, складана прадбачыць.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

# БАС — жывы час беларушчыны

ў болей сталую, як назіралася гэта ў выпадку часопіса „Сустрэчы” ці пашыранага супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. Члены БАСу мелі магчымасць прыняць удзел у работах камісіі па пытаннях нацыянальных меншасцей пры „Салідарнасці”. Заадно студэнцкае асяроддзе прыняло ўдзел у палітычных дзеяннях, так рэгіянальнага, беластоцкага ўзроўню, як і міжнароднага. Наладжана было супрацоўніцтва з Канадскім таварыствам „Беларусь”, нью-йоркскім танцавальным гуртком „Васілёк”, Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. У выніку сустрэч з прадстаўнікамі незалежных арганізацый з БССР, такіх як, напрыклад, Гарадзенскі клуб „Паходня”, „Талака”, Беларускі народны фронт „Адраджэнне”. Аднак найболей яркую дзейнасць БАС праяўляла на Беласточчыне. Таму грамадскі ўздым таго часу вынес на першы план якраз нацыянальнае пытанне, што зводзілася да арганізацыі беларускай палітычнай **партыі** – Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, увядзення ў культурна-народнае жыццё беларускай нацыянальнай сімволікі, ушанавання важных гістарычных падзей.

Трэба было **выйсці з запаведніка ў нармальнасць.** У палове снежня 1989 г. у Беластоку адбыўся II агульны сход БАС, якога важнай пастановай была арганізацыя фестывалю музыкі беларускай моладзі ў Гарадку **„Басовішча”**. Валік Сельвясюк у артыкуле «*Выхад з запаведніка*» пісаў, што „Басовішча” было месцам, дзе свабодна і натуральна гучала беларуская мова, фестываль поўніўся нацыянальнай сімволікай (бел-чырвона-белыя сцягі), а ўсё гэта адбывалася ў перыяд нацыянальнага прабуджэння беларусаў Беластоцкага краю, але і ўздыму нацыянальнай ідэі ў БССР. Чарговым, вельмі важным фактарам ідэі „Басовішча” была сучаснасць. Манаполія „фальклорнага запаведніка” адмоўна, паводле студэнтаў, уплывала на беларускае асяроддзе. На „Басовішчы” прагучала сучасная музыка. Сучасная, бо створаная ў сучасны момант. Сучасная ў разуменні сучаснай формы і ў разуменні сучасных праблем. Сучаснай была таксама публіка... Арганізацыйную групу **першага „Басовішча”** (тады «Фестываль музыкі беларускай моладзі») складалі найбольш актыўныя дзеячы БАС. Арганізацыйны талент выявіла тады Барбара Кучынская, студэнтка Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, якой даручана была функцыя мастацкага кіраўніка. Праявіліся таксама Валянцін Сельвясюк, які прабываў тады ў ЗША, Анна Матысюк, Аляксандр Карпюк, Міраслаў Пякарскі, Мікола Ваўранюк, Вячаслаў Харужы, Аляксандр Максімюк ды тадышні старшыня БАС Яўген Вапа... А цяпер у БАСе дзейнічае наступнае пакаленне, дзеці сяброў і сяброваў арганізацыі, працягваючае іхнюю дзейнасць і ідэі. Цяперашняя старшыня БАСу Лідзія Пякарская ўручыла ганаровыя адзнакі сяброў БАС Юрку Асенніку і Паўлу Станкевічу, а першы старшыня арганізацыі рэльефы з «Пагоняй» Лідзіі Пякарскай, Яну Гаворку і на рукі Алега Латышонка – Юрыю і Веры Латышонкам.

Злева: Аляксандр Максімюк, Ян Гаворка, Ян Лемеш, Алег Латышонак, Сяргей Мартыновіч

На юбілеі трыццацігоддзя ад рэгістрацыі «новага» БАСУ ўсхваляваныя сівавалосыя «мастадонты» ўспаміналі і хваліліся тым, што перажылі, што зрабілі перад вось гэтымі бадзёрымі, свядомымі і паспяховымі гадаванцамі. Дзякуючы ім вярнулася беларуская адукацыя ў Беласток. Моладзь са згуртавання АБ-БА падаравала бацькам і дзядзькам з БАСу торт і выступіла з «Народным альбомам». Спявала цэлая зала песні вядомыя з рэйдаў, купалляў і іншых сустрэч з яшчэ старэйшым пакаленнем беларусаў. Астравок беларушчыны жывы. Засталіся фільмы, кнігі, успаміны і жывыя наследнікі пахода па Бацькаўшчыне. Моцны падмурак.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# http://termas.by

Адыходзячы пакрысе 2018 год стаў яшчэ адным годам павольнага сыходу беларускай мовы з грамадскага ўжытку. На вуліцах большасці беларускіх гарадоў надпісы на ёй знайсці вельмі цяжка, пачуць беларускае слова становіцца ўсё складаней, для школьнікаў беларуская мова ёсць нейкім прадметам, які незразумела чаму трэба вучыць. У такіх варунках можна было б канстатаваць, што мінае яшчэ адзін год знішчэння беларушчыны, але некаторыя моманты не даюць гэтага зрабіць. Адзін з іх — з'яўленне ў інтэрнэце бізнесовых сайтаў з беларускай версіяй. Прычым гэтыя бізнесы зусім неабавязкова звязаны з продажам вышыванак ці праведзеннем нейкіх забаўляльных мерапрыемстваў з нацыянальным каларытам. Адзін з такіх сайтаў, што з'явіўся сёлета ў Байнэце, ёсць „Тэрмас.by”, якім месціцца ў Сеціве на аднайменнай старонцы **http://termas.by**.

Як бачна па назве сайта, інфармацыя на ім тычыцца разнастайнага тэрмапосуду — тэрмасаў, тэрмаконавак, тэрмазбаноў і іншых рэчаў, у якіх можна змясціць ежу ці пітво. „Інтэрнэт-крама Termas.by займаецца продажам тэрмасаў, тэрмаконавак, тэрмазбаноў, стрававых скрынак і шмат іншага для турызму й ня толькі. Мы дапамагаем Вам адкрываць для сябе Сьвет. І робім гэта зь беларускім акцэнтам”, — упэўнена сцвярджаецца на старонцы „тэрмаснага” сайта „Пра нас” і пазначаецца „Аматары — аматарам”. Там жа ўказаныя фірмы-вытворцы, чыю прадукцыю прадае інтэрнэт-крама ў Беларусі і за яе межамі. Гэта Emsa, Primus, Silva і Thermos.

Будова „тэрмаснага” сайта крыху незвычайная. Так, выйсці на рубрыкі месцяцца ўверсе і ўнізе цэлага выяўлення. Пры гэтым чамусьці менавіта ўнізе іх больш за ўсё.

Яшчэ адной вельмі заўважнай цікавосткай „Тэрмасу.by” ёсць правапіс. Уладальнікі інтэрнэт-крамы вырашылі пісаць унармаванай у 2005 годзе тарашкевіцай. Паколькі нават сайты з наркамаўкай з'ява не надта распаўсюджаная, то дарэформенны правапіс увогуле нешта зусім нязвыклае. Вось, напрыклад, як выглядае тэкст на „тэрмасным” партале: „Аплата банкавай карткай у сыстэме ArtPay зручная й бясьпечная. Перадача дадзеных у працэсе аплаты заказу адбываецца ў абароненым рэжыме TLS 1.2 з даўжынёй ключа шыфраваньня 256 біт з выкарыстаньнем тэхналёгіяў 3-D Secure Verified by VISA ды MasterCard Secure Code. Сэрвіс-правайдар абараняе дадзеныя Вашай банкавай карты, пацьверджаныя адпаведнасьцю стандарту бясьпекі PCI DSS 3.1. Перадача інфармацыі адбываецца па закрытых банкавых сетках, што маюць найвышэйшы ўзровень надзейнасьці. Працэсынгавы цэнтар не перадае дадзеныя Вашай банкавай карты нашай кампаніі й іншым трэцім асобам”.

На жаль, на сайце няма водгукаў ад кліентаў, таму немагчыма даведацца аб іх стаўленні да мноства мяккіх знакаў і літары „г”, якую не вывучаюць у беларускай школе.

Варта адзначыць, што сайт дае магчымасць знаёмства з таварамі, якія рэалізуе „Тэрмас.by”, не толькі па-беларуску, але па-руску і па-англійску. Але яскрава бачна, што інтэрнэт-гандляры маюць сэнтымент да беларушчыны, бо інакш не было б там фотакалажу ў гонар абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і слоў Багушэвіча аб тым, каб беларусы не пакідалі сваёй мовы, каб не ўмёрлі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Падзеі і асобы БНР

# 130 гадоў з дня нараджэння Міколы Дзямідава

Беларускі вайсковы, грамадска-палітычны дзеяч Мікола Дзямідаў нарадзіўся 10 снежня 1888 г. у мясцовасці Гарадок на Беласточчыне. Сын Станіслава Катнароўскага і Аляксандры з Каліноўскіх гербу Калінова, прозвішча меў па другім мужу маці. Яго дзед па лініі маці, Аляксандр Каліноўскі — брат Кастуся Каліноўскага.

У 1905 г. Мікола здаў экзамен на настаўніка двухкласных пачатковых школ у настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. У 1907 г. паступіў, як вольны слухач, на вячэровыя курсы на гістарычна-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў у канцылярыі службы руху Управы Прывіслянскай чыгункі. 1 кастрычніка 1911 г. Мікола Дзямідаў прызначаны кіраўніком чыгуначнай школы ў Беластоку.

З 1914 г. ён быў на вайсковай службе ў расейскай царскай арміі. А 1 лютага 1917 г. скончыў Першую Паўлаўскую вайсковую школу. Удзельнічаў у кастрычніцкай рэвалюцыі, быў Наваградскім акруговым камісарам. З сакавіка да лістапада 1918 г. быў у нямецкім палоне.

Актыўна арганізоўваў беларускія аддзелы ў Вільні. 1 снежня 1918 г. яго накіравалі ў Літоўскае міністэрства абароны. З 20 снежня 1918 г. да 1 чэрвеня 1919 г. займаў пасаду каменданта Гародні. У 1920 г. у ваколіцах Беластока Мікола Дзямідаў набраў з добраахвотнікаў батальён (каля 400 чалавек) і далучыўся да арміі Станіслава Булак-Балаховіча. У складзе астроўскага пяхотнага палка другой пяхотнай дывізіі 10-14 лістапада вёў баі за Калінкавічы, 21 лістапада ўдзельнічаў у баях над Прыпяццю. Са сваім батальёнам працягваў змаганне таксама пасля адступлення арміі Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю. Батальён Дзямідава ў канцы 1920 г. быў апошнім беларускім падраздзяленнем, якое ў адкрытым баі змагалася з саветамі за незалежнасць Беларусі. Ваяваў да студзеня 1921 г., пасля чаго адышоў на польскі бок фронту і быў інтэрнаваны.

У 1921-1922 гг. Мікола Дзямідаў працаваў настаўнікам у Гарадку, потым жыў у Латвіі. У 1940 г. яго арыштавалі і да 1941 г. пасадзілі ў Маскве на Лубянку. Праз год яму ўдалося адтуль вызваліцца і паехаць у Дзвінск. У сярэдзіне вайны Мікола Дзямідаў пераехаў у Ліду, дзе стаў акруговым інспектарам, арганізоўваў настаўніцкія курсы і батальён самааховы, куды ўваходзілі пераважна настаўнікі.

З восені 1944 г. Мікола Дзямідаў жыў на эміграцыі. Адзін з ініцыятараў склікання сабора Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канстанцы ў 1948 г. і аднаўлення БАПЦ пасля адыходу Беларускага епіскапату да Расейскай Замежнай Праваслаўнай Царквы.

У 1950 г. Мікола Дзямідаў выехаў у ЗША і спярша пасяліўся ў Лансінгу ў штаце Мічыган, але неўзабаве перасяліўся ў Чыкага. У тым самым годзе стаў сябрам кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскай Народнай Рады (БАНР), адзінай арганізацыі старой беларускай эміграцыі, якая прымала новых палітычных эмігрантаў.

З 1950 г. Мікола Дзямідаў вёў беларускія радыёперадачы ў Чыкага. Быў актыўным дзеячам Згуртавання беларусаў штата Ілінойс, заснаванага ў 1953 годзе, а таксама сярод заснавальнікаў беларускай праваслаўнай парафіі св. Юрыя ў Чыкага і першым рэгентам яе хору. Пазней, аднак, Мікола Дзямідаў далучыўся да беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў адным з найбольш актыўных парафіян.

Памёр Дзямідаў 23 чэрвеня 1967 г. Пахаваны на могілках у Чыкага. Памяць пра Міколу Дзямідава не ўшанавана.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Адкрыты ліст злодзею навясных замкоў

Чаму ты забраў нашы навясныя замкі «кахання» на мосце праз раку Супрасль, паміж вёскамі Каралёвае Стойла і Случанка? Калі ты зрабіў гэта — удзень ці ноччу? У адзіночку, ці з калегамі? Што ты пасля зрабіў з імі? Можа быць, выкінуў іх у раку, проста для забаўкі? Скажы нам.

Гэтыя замкі вешалі мы супольна, усе разам. Я першы павесіў свае з сям'ёй на мосце 28 ліпеня 2018 года. Пазней павесілі свае замкі кахання іншыя людзі падчас «Імянін Сонькі». Было іх ужо больш за дзясятак. Гэта была вялікая сумесная сустрэча на мосце. Пісалі аб ёй у прэсе, былі таксама паведамленні па тэлебачанні. Людзі цешыліся. Былі таксама замкі пазначаны ініцыяламі людзей.

Паводле легенды, звычка вешаць такія навясныя замкі вядзецца ад Фларэнцыі. Вучні школы Sanita in Costa San Giorgio забіралі замкі са сваіх школьных шафак і вешалі іх з любоўнымі прызнаннямі на Понтэ Век'ё. Звычай быў папулярызаваны пісьменнікам Федэрыка Моча ў ягоным рамане «Я хачу цябе» (Ho voglia di te) з 2006 года.

І я хацеў, каб гэты мост, размешчаны даволі далёка ад дарог, быў яшчэ раз месцам сустрэч, як і калісь. І нават каб фатографы прыязджалі сюды з маладымі парамі рабіць ім вясельныя фатаграфіі.

Масты патрэбныя. Спалучаюць два берагі, лучаць людзей.

Замкі можна знішчыць, але не адносіны паміж людзьмі. Нельга забраць любоў!

І калі маеш іншую задуму, калі ласка, падзяліся з намі. Я рады прыехаць і прыняць удзел у тваёй акцыі.

**Немагчыма забраць любоў!**

Я не ведаю, ці ты ўжо ведаеш пра гэта.

**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**




# Вечарына ў Белавежы

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета шмат асоб піша вершы. Жывуць яны ў розных вёсках і даволі далёкіх ад сябе. Некаторыя з іх маюць зборнікі сваіх вершаў.

27 лістапада гэтага года нараўчанскія паэты наведалі Белавежу. У школе прывіталі іх Ангеліна Масальская, настаўніца беларускай мовы і Марк Зубрыцкі, музычны кіраўнік белавежскага мастацкага калектыву „Ручаёк" (ён часта выступае на беларускіх фэстах і прыгожа спявае беларускія песні). Вучаніцы праспявалі паэтам беларускія песні пад музыку акардэона. Яны распявалі пра кожнага з іх і дэкламавалі іх вершы. Па ўсім відаць, што пра гэта паклапацілася настаўніца (яна працавала ў бібліятэцы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы). Была гэта прыемная неспадзеўка для гасцей з суседняй гміны. На мерапрыемстве быў прысутны, між іншым, Альберт Літвіновіч, войт Белавежскай гміны.

Падчас літаратурнай вечарыны ў Белавежы свае вершы чыталі Вера Радзіванюк з Міхнаўкі, Мікалай Варанецкі з Альхоўкі і Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова. Іх творчасць вельмі спадабалася слухачам. Некаторыя з іх папрасілі, каб некаторыя вершы паэты ім перапісалі і выслалі. Так яны ім даспадобы, так іх зацікавілі. Шкада, што паэты не ўзялі больш зборнікаў са сваімі вершамі з сабой у Белавежу. Раней пра гэта не забывалі.

Арганізатары паэтычнай сустрэчы падрыхтавалі таксама пачастунак. Яны гасцінныя. У зале ўвесь час панавала мілая і сардэчная атмасфера.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



## ЗАПРАШЭННЕ

**Пагаворым пра добры смак і гатаванне з радасцю**

Госцем Дыскусійнага клуба АБ-БА 13 снежня (чацвер) ў 17:30 будзе

**ЯАННА ЯКУБЮК**

– ураджэнка Студзіводаў, педагожка па адукацыі, кухарка з выбару, вялікая прыхільніца мясцовай кухні, аўтарка кніжкі „Ziemniak".

Склеп з культурай АБ-Бы, Пачатковая школа н-р 4 (вул. Чанстахоўская 6а) у Беластоку.

# Адгаданка

1. Паўлюк, беларускі паэт (1812-1891),
2. Міхась, беларускі гісторык (1942-1992),
3. пляцоўка для катання на каньках,
4. прылада для прасавання,
5. рыдлёўка,
6. рэч,
7. валошка,
8. мера вагі ў 16,38 кілаграма,
9. рэгіён на паўночным захадзе Украіны.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| | | | 1 | | | | | | 2 |
| | | | | 3 | 4 | | 5 | | |
| 6 | 7 | | | 8 | | | 9 | | |
| | | | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 46 нумара

Пціч, Малі, ламачча, два, Грац, Ява, пікет, куст, стакан, дама, мыла, Вашынгтон, іншаземец, макет, дына.

Рашэнне: **Вялікі пачатак часта канчаецца малым вынікам.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 16.12 — 22.12

**(22.03. — 20.04.)** Выклічаш павагу сваімі ведамі. Любоў прыўкрашаная раздражненасцю. На працы падумай, пакуль зробіш. Лепш не спрачайся з кіраўніцтвам. 15-20.12. можаш падумаць аб тым, каб звінуць свае ветразі. Новая праца літаральна за рагом. Еж толькі свежае.

**(21.04. — 21.05.)** Да 18.12. павінны паправіцца адносіны з раднёй і сябрамі. Пара першым працягнуць руку (асабліва 19-23.12.). Гарачыя раманы. Шанцы на ўдалае закрыццё года, раўнавага ва ўсім. Незалежна ад надвор'я выходзь на вуліцу. Старайся не налягаць на ласункі, бо можаш хутка патаўсцець. Але не марнуй ежы.

**(22.05. — 22.06.)** 18-22.12. пашчасціцца табе ў сяброўстве. 21-23.12. выйграеш кожную спрэчку і акажаш сваю рацыю. Не адмаўляйся ад сустрэч. Не закрывайся ў сабе, бо можаш страціць шанц на вялікае каханне. А гэта найлепшае лякарства на разбітае сэрца. Добры настрой, не пераймайся дробнымі непаладкамі. Пазбягай цяжкіх страў і лішку алкаголю.

**(22.06. — 23.07.)** Шмат добрых хваляванняў. Сіла. У сардэчных справах засвеціць сонца. Шанцы на каханне. 19-23.12. удасца пераламаць застой у пары. Рак з заручальным пярсцёнкам няхай лепш пільнуе партнёра. Для народжаных у другой дэкадзе не будзе немагчымых спраў. Кончыш важныя негацыяцыі, сфіналізуеш праект, можаш адкрыць уласную фірму (да канца месяца). Не закладвай нагі на нагу, калі сядзіш.

**(24.07. — 23.08.)** Цікавыя знаёмствы наладжаныя ў падарожжы. Зоркі пільнуюць тваіх інтарэсаў і настрою. А ты будзеш крыху скупаваты, можа ахапіць цябе манія ашчаджання. Шэф дацэніць твае старанні. Калі твая пара дастае цябе беспадстаўнай зайздрасцю ды прэтэнзіямі, 19-23.12. можаш раптам сустрэць кагосьці, хто здасца быць яе адваротнасцю, і даць ёй свой нумар. Час пакінуць свае комплексы і перастаць параўноўваць сябе з іншымі. Не шкадуй сам сабе кампліментаў і прыемнасцей, асабліва 18-22.12.

**(24.08. — 23.09.)** 15-20.12. падмацуешся псіхічна і станеш моцным перад атакамі канкурэнцыі. 21-23.12. адважныя і вельмі добрыя рашэнні. Добрыя сябры, поўныя кішэні і вельмі добрыя задумы. Прачнецца рамантычны бок тваёй натуры. Лёгка паддасіся рамантыцы, 19-23.12. твой партнёр зможа намовіць цябе на такое, чаго ты не зрабіў бы ў іншы момант. 21-23.12. — найлепшы момант на рэгістрацыю фірмы, магчымы хуткія прыбыткі. На працы хуткі крок на дарозе да павышэння. Справы ва ўстановах аформіш «ад рукі». Не ашчаджай на сваім здароўі!

**(24.09. — 23.10.)** 19-23.12. можаш сустрэць асобу, якая стане тваім духовым правадніком. Да 18.12. лепш не купляй дарагой і вялікай рэчы. Спадзявайся рамантычных перажыванняў з асобай, якую пазнаеш 19-23.12.; лепш не дапускай яе, аднак, да сваіх сакрэтаў. Лепш не даядай, бо лішак пойдзе табе ў бачкі.

**(24.10. — 22.11.)** Да 18.12. справы ва ўстановах і судах давядзеш да канца. Да 20.12. вельмі горача ў спальні. Спакой і самаўпэўненасць. Неблагое здароўе. 19-23.12. ніхто табе нічога не адмовіць. Добрыя лады ў фірме. Лішне не дагаджай сябе за сталом. Не прамачы ног; купі цёплы, непрамакальны абутак.

**(23.11. — 22.12.)** 21-23.12. з матэрыяльных і прафесійных праблем вызваліць цябе кан'юнкцыя Меркурыя і Юпітэра. Паставяць цябе ва ўзор для іншых. Не прымай абы-як пачуццяў іншых. Падумай, як дараваць іншым правіны ды сам папрасі даравання. 21-23.12. не адмаўляйся ад прыняцця ўдзелу ў нейкім міжнародным праекце, кірмашы ці абучэнні.

**(23.12. — 20.01.)** Да 18.12. развяжаш нялёгкія фінансавыя ці любоўныя праблемы. Да 20.12. зробіш адважныя прыёмы. Развінецца твая ўражлівасць і інтуіцыя. Махнеш рукой на тое, што робіцца ў фірме, хто пайшоў вышэй ці атрымаў узнагароду. Не спакусішся нават на вялікія грошы. Можа, падумаеш аб іншай дарозе ў прафесіі або зоймешся хобі? Апанаваць эмоцыі памогуць табе ёга, шпацыры.

**(21.01. — 19.02.)** Дагаворышся з партнёрам, пагодзішся з раднёй. Шчыра паразмаўляеш. Дробныя «шаленствы». Заўсёды ўпадзеш на чатыры лапы. 21-23.12. у тваім жыцці паявяцца людзі, якія ў будучыні будуць для цябе вельмі важнымі. 18-22.12. паразмаўляй з шэфам; у фірме маеш шанц дасягнуць усё тое, што ты запланаваў.

**(20.02. — 21.03.)** Да 18.12. трапныя фінансавыя рашэнні. Да 20.12. аформіш усе справы, якія цяжка было зварухнуць з месца. 19-23.12. можаш узаемна зачаравацца. 21-23.12. можаш атрымаць вельмі прыбытковую работу, але гэта на сезон — заробіш добра і хутка, але такая нагода хутка не паявіцца. Спадзявайся ўзнагароды, прэміі. Добра высыпайся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Падляшша і Камянеччына — у пошуках суродзічаў

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК



Ніна Краўчук

— Сёлета ў нас сенакос *байкі*, — заявіў з гонарам сакратар Вяраховіцкага сельсавета.

Ён гаварыў яшчэ пра іншыя дасягненні і нават не падазраваў які наклікаў энтузіязм. Усё з-за аднаго слоўца, якое лічаць моўным брэндам Падляшша:

— Дык і ў вас кажуць: *байкі*, — запыніла я размову, знюхаўшы ў гэтым гістарычнае і ментальнае адзінства з Камянеччынай. Хацелася пра тое пагаварыць. Але мой суразмоўца думаў інакш. Ён ведаў усё наперад:

— То ж мы калісь жылі пры Польшчы, таму гаворым такія словы, як ваша *байкі*...

Ну так, постсавецкі чалавек мае гатовы адказ на кожнае пытанне. Хаця ў размове я не карысталася польскай мовай, спадар сакратар, на вока мой аднагодак, чамусьці хацеў бачыць ува мне палячку. Хоць у пэўны момант, ні з пушчы, ні з поля, спытаў: *Вы наверно любіце беларускі язык?*

Ад непаразумення я адчула сябе здраджанай і прыбітай. Адмаўляцца ад самога сябе і сваёй душы — псіхалагічная катастрофа. Яшчэ больш недарэчнай думкай здалося мне талкаваць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь пра важнасць яго роднай мовы. Спрацавалі непаразуменне і ідэалагічная адчужанасць. Нават тое цудоўнае слоўца *байкі*, якое прамільгнула між патокам слоў, нічога не памяняла і не прыблізіла. Падляшша і Камянеччыну далей раздзяляў ментальны жалезны кардон.

* * *

Саша прыліп як смала і не хацеў развітацца. Ён прастаяў са мной на прыпынку ў Вярховічах паўтары гадзіны, трымаючы ў руках стары ровар *Урал*. Палову часу ён прысвяціў палітыцы, а больш дакладна варожай Амерыцы:

— Вы, палякі, здрадзілі нас, — не хаваў абурэння, — пайшлі на сабачую службу Амерыцы. Ды хто вас пасватаў з гэтымі злыднямі! Яны нібыта Украіну ўзялі ў абарону! Аж вядома, пра што тут ідзе! Ім трэба прынізіць Расію. Зняволіць рускі народ. Адабраць у нас газ, золата, металы...

Хоць выступленне Сашы я прымала з крайняй абыякавасцю, ён як накуплены лепятаў пра палітыку, дэманструючы адначасова сваю абмежаванасць і ачмурэласць прапагандай...

— Расія самы мірны і справядлівы народ у свеце, — крычаў ён. — Яна ўсім дапамагала, за кожным заступалася. Колькі дапамагла палякам! Дзе ваша ўдзячнасць?

Саша хваліў Расію і адначасова баяўся за лёс Беларусі. Пагрозу бачыў у характары Аляксандра Рыгоравіча:

— Наш Лукашэнка занадта патрабавальны і гарачы, — тлумачыў сам сабе Саша, — усё нечага дамагаецца, марочыць мазгі Пуціну. У Пуціна ж таксама нейкае цярпенне ёсць! А вось разгневае яго і нам усім п... будзе!

Саша, хоць прыблізна ў маім узросце, пенсіянер і ўдавец. Раней жыў і працаваў слесарам у Берасці. Пасля смерці жонкі пакінуў кватэру для сына ды сам вярнуўся жыць у родныя Вярховічы. Другую палову часу ён прысвяціў тэме вырошчвання дыні і гарбуза.

— Пайшлі да мяне, — заахвочваў, — сама пабачыш, якія ў мяне салодкія дыні...

На змену тэматыкі і настрою размовы паўплывала адна дэталь. Калі Саша прыкмеціў, што не цікавіць мяне яго даклад пра палітыку, ён спытаў:



— А ты жывеш у горадзе *ілі в деревне?*

— *В деревне*, — зманіла я.

* * *

Падарожжы на публічным транспарце гэта асаблівы досвед з прысмакам сочкі. Спачатку нічога не адчуваеш і не падазраеш...

Па дарозе з Камянца ў Высокае я падумала памяняць планы і спыніцца ў Белавежскім. Гарадскі пасёлак на краю пушчы вядомы з-за прэстыжнай свінафермы. Я нікому не сказала пра змену сваіх планаў. Ды і навошта, калі кожны пасажыр паасобку патанаў у сваіх думках. Ніхто з нікім не гаварыў і не аказваў зацікаўленасці іншымі. Здавалася — тут поўная ананімнасць і абыякавасць. Аднак, калі я паднялася з месца і рашыла злезці ў тым жа Белавежскім, у мой бок загаласіў жаночы хор:

— Гэта не тут! Вы ж бралі квіток да Высокага. Гэта яшчэ шмат дарогі...

Гэты напамін шакіраваў мяне. Пра тое, што еду ў Высокае я сказала толькі адзін раз, да таго на сцішанай ноце пры акенцы ў Камянцы, дзе набыла квіток. Тое, што пра мой маршрут ведала палова аўтобуса, здавалася недарэчнасцю. Адкуль такая грамадзянская чуйнасць? Усе тут драмалі або маўчалі. Пра тое, што нехта клапаціўся яшчэ маім даездам, здавалася звышмагічным.

Далейшы адрэзак дарогі ў Высокае таксама ўсё маўчалі... Але я ўжо не думала пра сваю ананімнасць... Такому журналісту як я неабходная непрыкметнасць.

Хапіла аднак заехаць у нейкае сяло ці хутар, каб там як з-пад зямлі, з'яўляліся цікаўныя дзядзькі і цёткі. Як у тым Амелянцы. Калі разам з сябрамі мы апынуліся на царкоўным пляцы, адразу з'явіўся мужчына. Праўда, у гэты раз усё пакацілася ў добры бок. Чалавек ведаў людзей з нашага Вэрстока і Доўгага Броду. Недавер канчаткова развеяўся пасля таго, калі сябры назвалі прозвішчы сваякоў.

Валодзя, хоць спяшаў у Брэст, з ходу прапанаваў дапамогу. Ён звазіў на кладбішча да магіл сваякоў і запрасіў да сябе ў госці.

Гайнаўска-Камянецкае сваяцтва спрацавала.

* * *

У хаце Ніны Краўчук усюды аленевы рогі. Інтэр'ер схіляе ў бок роднага Падляшша. Мімавольна думаеш пра людзей з Война́кі ці Старыны. Жанчына адна дажывае ў драўлянай, прасторнай хаце ў Чвірках. У сяле, якое калісь цягнулася на паўтары кіламетра, дажываюць старыя. Ніна Краўчук вельмі рада гасцям з Падляшша. Сама яна нарадзілася ў 1937 годзе ў Круглым. З роднай мясціны запамятала адну дэталь. У час нямецкай акупацыі іх сям'ю адправілі ў бежанства.

— Мы ехалі і ад сядзення забалелі мне ножкі. Я моцна плакала і немец, які ішоў каля воза, узяў мяне на рукі... — успамінае.

Нямецкую акупацыю сям'я Міколы Патэюка з чацвёркай дзяцей перажыла каля Пружан. Ад голаду ратавала іх карова, якую забралі ў бежанства. У Круглае аднак не змаглі вярнуцца, дарогу перасекла мяжа. Засталіся жыць у вёсцы маці, якая апынулася ўжо ў БССР. Ніна Краўчук выйшла замуж у Чвіркі:

— Як зрабілі калгасы, то людзі не мелі ніякага права, — успамінае жанчына. — Забралі пашпарты і нідзе не пускалі. Адно работа і работа! Слава Богу, усё гэта мінула!

Гаспадыня паказвае здымкі дзяцей і ўнукаў, якія разам з іконамі і кветкамі выстаўлены на стале ў светлым пакоі. Слава Богу! Не забываюць, усе тэлефануюць, прыязджаюць. Вось у апошнюю суботу ўнук з Берасця скасіў панадворак і навёў парадак.

Бабу Ніну пільнуюць два здаровыя аўчаркі. Праўда, апошнім часам яны безупынна брэшуць па начах, бо ў сады за яблыкамі прыходзяць алені з пушчы.

— Яны часам і рогі ў садку пакінуць, — смяецца жанчына, — не трэба хадзіць па лесе...

Прылюдная Ніна Краўчук размаўляе на мілагучнай палескай мове.

— А ведаеце, я калісь пісала пра Патэюкоў, што жывуць на Круглым у Дубіцкай гміне, — кажу на развітанне.

— От-то-то! — не хавае радасці жанчына. — Яны — наша радня!

ISSN 0546-1960 50